© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ № 49 (157) ◆ 8 снежня 1993 г. ◆ Кошт — 5 рублёў.

## Поступ тыдня

17-ТЫ АРТЫКУЛ ПРАЕКТА КАНСТЫТУЦЫІ, які замацоўвае за беларускай мовай статус дзяржаўнай, не быў прыняты Вярхоўным Саветам і адпраўлены на дапрацоўку. За дзяржаўнасць беларускай мовы выказаліся 199 дэпутатаў. Падчас галасавання ішлі вострыя дыскусіі вакол статуса рускай мовы.

Менская гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны за подпісам яе старшыні Міколы Савіцкага распаўсюдзіла заяву «У абарону роднай мовы», у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «Горка і прыкра бачыць сярод народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета нашай незалежнай дзяржавы сучасных Мураўёвых і Суворавых. Вы часта на трыбуне і каля мікрафонаў гаворыце правільныя словы аб тым, што хочаце пабудовы свабоднай дзяржавы Беларусь, далучэння яе да польсупольнасці краін свету. І разам з тым хочаце канчаткова пазбавіць беларусаў іх Боскай мовы, якую глумілі каланізатары на працягу 300 апошніх год... Мы патрабуем паважлівага стаўлення да права кожнага народа ствараць, развіваць роднамоўнае інфармацыйнае асяроддзе і жыць у ім...»

Але як бы там не было, акрамя сучасных Мураўёвых і Суворавых, у Вярхоўным Савеце ёсць 199 дэпутатаў, якія ведаюць і разумеюць, што яны жывуць у Рэспубліцы Беларусь, якая без роднай мовы загіне.

◆

*У ВЁСЦЫ СЕМЕЖАВА, ШТО ПАД СЛУЦКАМ, АДБЫЛОСЯ СВЯТКАВАННЕ ДНЯ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ.*

◆

2 ЛІСТАПАДА НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ВЫСТУПІЎ СТАРШЫНЯ ЎРАДА В. КЕБІЧ, які паведаміў аб выніках перагавораў з расійскім калегам В. Чарнамырдзіным. В. Кебіч пахваліўся, што на сённяшні дзень па пытанні разлікаў за нафту дасягнуты «нулявы варыянт», а таксама дасягнута дамоўленасць аб зняцці расійскім бокам з 15 снежня мытных бар'ераў на мяжы з Беларуссю. На думку Чарнамырдзіна, Беларусь на сённяшні дзень з'яўляецца адзінай дзяржавай СНД, з якой расійскі ўрад гатоў вырашыць пытанне аб аб'яднанні грашовых сістэм. Гэта і не дзіўна, бо Беларусь гатова ўвайсці ў склад Расійскай Федэрацыі і тым больш, што гэта рэальна пры такім урадзе і Вярхоўным Савеце.

◆

У ДРУКУ АБНАРОДАВАНЫ «Асноўныя напрамкі дзеянняў па выхаду Рэспублікі Беларусь з крызіснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі і паскарэнні рынчаных рэформ», рэалізацыя якіх ажыццяўляецца праз рашэнні Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Няўжо цяперашнія дэпутаты змогуць нешта зрабіць вартае для сваёй краіны, якую ж самі давялі да крызіснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі?

◆

*СТАРШЫНЯ НАРОДНАГА РУХУ БЕЛАРУСІ СЯРГЕЙ ГАЙДУКЕВІЧ НА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ ВЫКАЗАЎСЯ ЗА ЎВЯДЗЕННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАЛЮТЫ. Ён заявіў, што «калі такое рашэнне не будзе прынята на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета, то Народны рух стане ў апазіцыю да ўрада і будзе дабівацца яго адстаўкі». Сяргей Гайдукевіч выказаўся за правядзенне вясной 1994 года датэрміновых выбараў парламента. Што гэта: паварот тварам да незалежнасці нашай краіны ці гульня ў змагароў за дэмакратыю і адраджэнне?*

*Але!*

## *Чыя ж краіна Беларусь?*

У 40-м нумары газеты «Літаратура і мастацтва» прачытаў аб тым, што адзін дэпутат Гарадзенскага гарадскога Савета прапанаваў разгледзець на сесіі пытанне аб парушэнні правоў... «русскоязычного населения» абласной газетай «Гродненская правда». Ён, бачыце, страціў магчымасць «даведвацца пра навіны», таму што ў апошні час абласная газета пачала друкаваць шэраг матэрыялаў на дзяржаўнай мове краіны! Як кажуць, дажыліся! Дзе яшчэ, у якой краіне такое магчыма пачуць ці пачытаць у газеце?! Асабіста мне ва ўкраінскай прэсе такога чытаць не даводзілася. Ну, а калі б нейкі дэпутат выступіў з такой «прапановай», то яго б выкінулі за дзверы ды яшчэ прыцягнулі б да крымінальнай адказнасці за антыдзяржаўныя дзеянні. Вось я зараз і думаю: чыя ж краіна Беларусь? Беларусаў ці нацменаў?! Калі ўсё ж беларусаў, то ўсе гэтыя «нацмены» павінны паважаць карэнных жыхароў і іх мову, бо гэта яны прыбылі жыць на беларускую зямлю, а не наадварот. Дарэчы, беларусы, якія воляю лёсу вымушаны жыць, як я, за межамі сваёй Бацькаўшчыны, ніколі не патрабавалі і не патрабуюць сабе абласных ці гарадскіх газет на беларускай мове, а спакойна чытаюць іх на тых мовах, на якіх яны выдаюцца. І не лічым, што адсутнасць на Украіне газеты ці часопіса на беларускай мове ёсць факт парушэння нашых правоў, правоў «беларускамоўнага насельніцтва», тым больш, што ўкраінская мова вельмі падобная на мовы беларускую і расійскую, таму няма ніякіх праблем з чытаннем, што я ахвотна і раблю, хоць ніколі не вывучаў украінскую мову ў школе ці універсітэце. Дык чаму ж прышлыя людзі на Беларусі ці мясцовыя «митрофаны» так люта ненавідзяць такую прыгожую мову, якая была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім?! Людцы, апамятайцеся! Ужо ўвесь свет цывілізаваны смяецца, што нават прэм'ер Кебіч ігнаруе дзяржаўную мову краіны, у якой займае такі высокі пост, ды паслугоўваецца мовай краіны, якая на працягу амаль трох стагоддзяў вытраўляла з беларусаў іх родную мову...

Памятаю, што былая КПБ, функцыянеры якой сёння амаль у поўным складзе пры партфелях у Саўміне ці Саветах рознага ўзроўню, абяцала групе творчай інтэлігенцыі, якая звярталася з адкрытым лістом у КПСС, да 1993 года адрадзіць выпуск на беларускай мове абласных газет у Гродне і Брэсце, усіх раённых і аб'яднаных газет шэрагу раёнаў Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, а таксама рэспубліканскіх газет «Белорусская нива», «Физкультурник Белоруссии» і часопіса «Сельское хозяйство Белоруссии». Год гэты ўжо хутка скончыцца, але як выдаваліся ўсе гэтыя газеты па-расійску, так і працягваюць выдавацца надалей. Што і дае магчымасць розным шавіністам бачыць парушэнне правоў «рускоязычного населения» ў выглядзе нават часткі (!) матэрыялаў на дзяржаўнай мове краіны. Дык ці не пара сапраўды ад 1 студзеня 1994 года перавесці ўсе раённыя, гарадскія, абласныя і іншыя так званыя «отраслевые» газеты і часопісы на дзяржаўную мову краіны, за чый кошт яны і выдаюцца? А для «непонятливых» і «митрофанов» дастаткова будзе і адной-дзвюх рускамоўных газет: любай ім «Советской Белоруссии» і «Знамени юности».

Хочацца спадзявацца, што «эра камуністычнага далёка» заканчваецца: кастрычніцкі мяцеж у сталіцы суседняй дзяржавы быў іх апошняй спробай рэанімацыі камуністычнай, «русскоязычной» імперыі. Не атрымалася, і дзякаваць Богу, што не атрымалася. А гэта значыць, што зараз ініцыятыва на Беларусі павінна быць не ў «партыі Кебіча», у якой быў адзін маршрут — да «канфедэрацыі з Расіяй», дзе беларуская мова будзе зусім не патрэбнай. Так бы і было, можна не сумнявацца! Але не будзе! Дзякаваць Богу, на Беларусі ёсць не толькі Лукашэнкі, Качаны, Казловы ды Чыкіны, але і патрыёты краіны, якія павінны зараз узяць ініцыятыву. Спадзяюся, што спадар Станіслаў Шушкевіч перастане заігрываць са здраднікамі незалежнасці краіны, якія ездзілі на хаўрус да чырвона-карычневых у Маскву, і зробіць усё, каб іх галасоў было не чуваць з мікрафонаў на «тарабарскай» мове. Скажу шчыра, мне ад лукашэнкаўскай лаянкі робіцца млосна. І хто яго вылучаў у дэпутаты?! Я веру, пасля вясновых выбараў-94 бальшыня павінна быць у рупліўцаў роднага краю, а не здраднікаў. І першым прэзідэнтам незалежнай Рэспублікі Беларусь павінен быць толькі такі чалавек, як Зянон Станіслававіч Пазьняк, якому я прыношу праз газету свае прабачэнні за «наскок» у газеце «Звязда» сёлета за 8 ліпеня: пасля таго, як я паслухаў Вашыя выступы на III палітычнай канферэнцыі ў тэатры імя Янкі Купалы 6 ліпеня, а потым у Оперным тэатры на Першым з'ездзе беларусаў свету, я зразумеў, што Вы — чалавек № 1 у нашай гаротнай краіне, і толькі Вы зможаце адстаяць яе суверэнітэт і нейтралітэт. Дай Бог Вам і ўсяму народу Беларусі поспехаў і розуму на выбарах-94, якія павінны пакласці канец камуністычнаму здзеку на Беларусі: 1994 год павінен стаць годам, калі над Беларуссю будзе горда лунаць бел-чырвона-белы сцяг, а гучаць будзе вольна беларуская мова.

Я ўпэўнены, народ Беларусі дачакаецца таго дня, калі ніякі «нацмен» не асмеліцца абражаць яго родную мову, дзяржаўную мову суверэннай краіны.

Пятрусь КАПЧЫК,
філолаг.

Украіна.

## Справа зрушылася

Скажыце, ці ёсць у горадзе Масты вуліца імя Ф. Скарыны? Так, цяпер ужо ёсць. Такую назву носіць зараз ужо былая вуліца 30 гадоў ВЛКСМ. Рашэнне аб перайменаванні вуліцы прынята на адным з пасяджэнняў Мастоўскага гарвыканкама.

Вуліца К. Цэткін будзе называцца Школьнай, а 40 гадоў БССР — Каштанавай. Шкада, што гарвыканкам узяў кірунак на агульныя назвы, быццам у нас не хапае дастойных прозвішчаў. Праўда, у мікраёнах новыя вуліцы ўсё-такі будуць насіць і прозвішчы вядомых землякоў.

Ну, а на гэтых вуліцах шыльды з новымі назвамі абавязалася ўстанавіць вытворчае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі да 15 лістапада 1993 года.

А. СІДАРОВІЧ.

г. Масты.

## Праваслаўныя Дзяды ў Маладзечне

*14 лістапада жыхары горада сабраліся каля капліцы на раней разбураных уладамі могілках, каб адзначыць праваслаўныя Дзяды.*

*Мітынг-рэквіем, прысвечаны памяці продкаў, уступным словам адкрыў старшыня Маладзечанскага аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны Л. Цімохін. Перад прысутнымі выступілі народныя дэпутаты абласнога Савета В. Кастко, раённага — М. Івашкевіч. Пад канец мітынгу з вуснаў айца Алеавіра прагучаў малебен памяці тых, хто пайшоў ад нас на вечны спачын.*

*Затым усе прысутныя накіраваліся на плошчу Незалежнасці да каменя-помніка пакутнікам Беларусі, якія змагаліся і загінулі за волю і незалежнасць дзяржавы, паклалі да яго падножжа кветкі. Выступілі з прамовамі прадстаўнікі горада і гарвыканкама, а святар Іван Іванавіч Летцько правёў малебен на беларускай мове.*

М. КАПЫЛОВІЧ.

*ФЕДЭРАЦЫЯ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ НАКІРАВАЛА Ў ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ ПІСЬМО, у якім патрабуе прызначыць дату правядзення датэрміновых выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады. Патрабаванне савета ФПБ падтрымалі 738 тысяч радавых членаў прафсаюзаў. У выпадку невыканання Вярхоўным Саветам гэтых патрабаванняў ФПБ пакідае за сабой права на самыя рашучыя дзеянні.*

*НА ПРЫЁМЕ, НАЛАДЖАНЫМ*

*У ГОНАР 70-Й ГАДАВІНЫ З ДНЯ АБВЯШЧЭННЯ ТУРЭЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол гэтай краіны пан Тансу Акандан сваю прамову сказаў на беларускай мове. Вось вам і турак!*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



Але!

## Сёння курды і каўказцы, заўтра кітайцы?

Час ад часу ў саўмінаўскіх газетах мільгаццяць заметкі з грыфам «Спецслужба паведамляе» пра тое, што «мігранты працягваюць штурмаваць граніцу». Беларускую. Пераадолеўшы нейкім чынам такую магутную расійскую. А некалькі разоў гэты сюжэт дэманстравала наша тэлебачанне. Асабліва ўражвала, як затрымлівалі вялікія групы курдаў пад сорак чалавек адразу. Прычым аказваецца (пра што паведамлялася з асаблівай узнёсласцю) — ліхое затрыманне здзейснілася дзякуючы... папярэдняй інфармацыі расійскай спецслужбы.

Але! Цікава: а чаму тады Масква прапускае на Беларусь гэтых мігрантаў, а не пакідае іх сабе? І ці не танней было б іх па расійскаму прыкладу прапусціць далей? Ці ўрэшце затрымаць каля Оршы і купіць ім за іх жа кошт чыгуначныя білеты хоць бы да Смаленска? Іначай, калі падобная брацкая дапамога з боку расіян будзе доўжыцца (а гэта відавочна), як плануе наш урад з гэтым наплывам «данайскіх падарункаў» упраўляцца: абсталёўваць і ўтрымліваць за беларускі кошт лагеры мігрантаў ці праз колькі месяцаў проста запускаць іх у нашы гарады, як тое робіцца з каўказцамі? Назад тых жа курдаў Расія не возьме — не «іхнія». У Турцыю таксама не дэпартуеш. А вось адтуль курды будуць бегчы і бегчы, бо Турцыя збройнай сілай іх нішчыць за спробу атрымаць нацыянальную суверэннасць. Курдаў жа там не меней за 12 мільёнаў. Колькі застанецца гэтых бедалагаў на долю Беларусі? Было б натуральным, каб пра тое спытаўся ў ААН наш міністр замежных спраў. Або ўзняў пытанне ў Савеце Бяспекі, дакуль туркі будуць беспакарана вынішчаць нацыянальна свядомых курдаў.

І яшчэ адно «Але!». Ужо зараз Расія занепакоена тым, што яе Далёкі Усход запаланяюць кітайцы. Праз лічаныя гады становішча з кітайскай міграцыяй стане ўвогуле абвальным. Можна не сумнявацца, што ў падобнай сітуацыі Расія з ахвотай будзе дзяліцца кітайскімі мігрантамі з суседзямі, асабліва з «памяркоўнымі» беларусамі. Ужо зараз гэты элемент пачынае пераважаць. Так толькі за лічаныя дні ў чыгуначным пункце «Брэст-Цэнтральны» пагранічнікамі затрымана 15 мігрантаў і з іх 6 грамадзян КНР. На «Варшаўскім Мосце» яшчэ з дзесятак. І гэта толькі кветачкі. Ягадкі, калі не будзе прыняты адпаведны закон ды не створана надзейная заслона з боку Расіі і, магчыма, Украіны, Беларусь чакаюць у недалёкай будучыні. Будуць яны горкімі.

Ул. АСІНАЎСКІ.

## У суполках ТБМ

*На сходзе настаўнікаў геаграфіі і гісторыі, што адбыўся ў СШ № 1 г. Нясвіжа, утворана Нясвіжская раённая арганізацыя ТБМ. Старшынёй арганізацыі абрана настаўніца Т. Макаўчык. Новай сябрынай прыняты зварот да арганізацый і ўстаноў раёна. Было вырашана наладзіць сустрэчу з кіраўнікамі сельсаветаў і дырэктарамі школ раёна, каб абмеркаваць з імі пытанні стварэння на месцах першасных суполак ТБМ і выканання мясцовымі ўладамі Закона аб мовах.*

*Заключана дамова аб аб'яднанні суполкі ТБМ «Унія» з «Менскай выдавецкай суполкай» таго ж ТБМ. Падставай да аб'яднання выдавецкіх суполак сталі блізкасць накірункаў іх дзейнасці (выдавецкая справа), наяўнасць агульных сяброў ды існаванне агульнага друкаванага выдання — часопіса «Унія», заснаванага «Менскай выдавецкай суполкай». Сумесны сход арганізацый вырашыў уключыць суполку «Унія» ў склад аб'яднання «Менская выдавецкая суполка» ды змяніць яго назву на новую: «Выдавецкая суполка «Унія» ТБМ імя Ф. Скарыны».*

* * *

*Старшынёй камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевічам напісаны і распаўсюджаны ліст-зварот да старшынь Саветаў народных дэпутатаў з просьбай спрыяць утварэнню ў раёнах першасных арганізацый ТБМ. Гэта ўжо трэці ў гэтым годзе аналагічны зварот старшыні ТБМ да мясцовых улад.*

Падрыхтаваў У. ПАНАДА.

## Наменклатурная міфалогія і рэчаіснасць

**Падзеі апошняга часу, якія адбываюцца на абсягах былога СССР, паказваюць, што камуністычная наменклатура зноў цягне ў «светлае» ўчора. Зноў рэанімуюцца міфы аб агульнанароднай уласнасці, аб адсутнасці эксплуататараў у «сацыялістычнай» сістэме, аб тагачасным клопаце пра састарэлых, інвалідаў і моладзь, аб «бесплатной медицине и образовании». Але ж ці было гэта ўсё раней на самай справе? І ці будзе так заўтра, калі наменклатура застанецца ва ўладзе?**

КАБ АДКАЗАЦЬ на пастаўленыя пытанні, паспрабуем яшчэ раз зблізку зірнуць на змест пералічаных міфаў і іх практычную сутнасць.

Як вядома, найбольшым міфам камуністычнай сістэмы з'яўлялася аксіёма, што народ — гаспадар агульнанароднай уласнасці. Сёння ні ў каго, відаць, не выклікае сумненняў, што стваральнікамі гэтай уласнасці былі працоўныя — рабочыя, сяляне, навукова-тэхнічная і творчая інтэлігенцыя. Менавіта іх розумам і рукамі пабудавана і зроблена ўсё, што ёсць. Але ўласнікам, паводле класікаў марксізму, з'яўляецца толькі той, хто гэтай уласнасцю распараджаецца, карыстаецца, хто мае права яе куплі-продажу, хто гэту ўласнасць можа пакінуць нашчадкам. Камуністы на ўвесь свет заяўлялі, што фабрыкі і заводы нібыта перададзены рабочым, а зямля — сялянам.

Што з гэтага мелі рабочыя і сяляне, мы зараз выдатна бачым.

Фактычным неабмежаваным гаспадаром усіх сродкаў вытворчасці (фабрыкі, заводы, амаль 90 працэнтаў зямлі) аказалася партыйная вярхушка. Яна складалася з тых, хто ў сваёй большасці не сеяў, не выпускаў прадукцыю, не будаваў, не выношваў навукова-тэхнічных ідэй, канструктарскіх і тэхналагічных распрацовак, не лячыў людзей, не ствараў твораў мастацтва. Але якраз гэты злачынны клан доўгія дзесяцігоддзі непадзельна заставаўся калектыўным уласнікам нашай агульнанароднай уласнасці.

Другім пашыраным міфам быў тэзіс аб адсутнасці «класса эксплуататоров в социалистическом обществе».

Пры гэтым замоўчвалася, што ў дэмакратычных краінах з рыначнай эканомікай («капиталистической системой») з выробленага прадукту на заробак працоўным ішло ад 30 да 60 працэнтаў. А на тэрыторыі былога СССР —толькі ад 6 да 15 працэнтаў і, акрамя таго, яшчэ каля 5 працэнтаў вярталася ў выглядзе «бесплатного медицинского обслуживания и образования». Далейшыя каментарыі тут, мабыць, залішнія.

Правільнасць марксісцка-ленінскай тэорыі — яшчэ адзін міф, які ўсяляк імкнулася ўкараніць у нашу свядомасць камуністычная наменклатура.

Правільнасць любой тэорыі вызначаецца практыкай. Больш як семдзесят гадоў развіцця СССР, іншых так званых сацыялістычных краін толькі падкрэсліваюць памылковасць гэтай тэорыі: ва ўсіх краінах «социалистического лагеря» былі знішчаны дзесяткі мільёнаў людзей «во имя мировой социалистической революции». Спроба ажыццявіць прынцыпы марксісцкай тэорыі на практыцы прывяла народы гэтых краін да агульнага заняпаду, да адсталасці ў эканоміцы, да вынішчэння навакольнага асяроддзя.

Адзін з найбольш распаўсюджаных міфаў наменклатуры ў цяперашні час — міф аб тым, што эканамічны крызіс на тэрыторыі рэспублік былога СССР ёсць нібыта вынік распаду адзінай эканамічнай прасторы і былых эканамічных сувязей. Чаго тут больш — крывадушша ці хлусні?

Паспрабуйце пагартаць нашу прэсу 60—70-х гадоў. Вы там знойдзеце шмат прыкладаў, калі прадпрыемствы зрывалі пастаўкі адзін аднаму, хоць паміж рэспублікамі не было ніякіх граніц і мытных тарыфаў, а была, як вядома, адзіная рублёвая зона. А вось, напрыклад, невялікая нейтральная Швецыя выпускае сучасныя самалёты, аўтамабілі і бензапілы. Ці Японія, дзе пражывае больш за сто мільёнаў чалавек і дзе нафты сваёй амаль няма і лесу не хапае. Але ж яна не просіцца ў СНД, дзе найбагацейшая сыравінная база.

Сёння былая камуністычная наменклатура прыкладае таксама значныя намаганні дзеля ўкаранення і пашырэння хлуслівага тэзіса, паводле якога пры камуністах у СССР паўсюдна быў устойлівы дабрабыт, а тагачасны савецкі рубель характарызаваўся стабільнасцю. Давайце бліжэй, так бы мовіць, прыгледзімся да гэтага чарговага міфа.

Сапраўды, пасля грашовай рэформы 1961 года і хрушчоўскай «адлігі» да пачатку 80-х гадоў назіралася павышэнне жыццёвага ўзроўню народа. Падкрэслім, што тры дзесяцігоддзі назад ужо былі асвоены «целинные земли» і таму зменшылася патрэба ў імпарце замежнага хлеба, тады ж быў уведзены гарантаваны мінімум зарплаты (складаў штомесячна 60 рублёў), з'явілася крыху больш тавараў у магазінах, а жыхары вёскі атрымалі, урэшце, пашпарты і, значыць, магчымасць змены месца жыхарства ў межах краіны. У той перыяд таксама быў дасягнуты ваенны парытэт з ЗША.

Але ж не варта забываць, што пасляваеннае абнаўленне гаспадаркі адбывалася за кошт татальнага рабавання вёскі і прымусовай, амаль бясплатнай працы мільёнаў нашых грамадзян. Той «дабрабыт» ствараўся і за кошт масавага, безгляднага разрабавання айчынных прыродных багаццяў. У сярэдзіне 60-х гадоў пачалася інтэнсіўная распрацоўка буйных радовішчаў нафты ў Паволжы. Былі заключаны доўгатэрміновыя дагаворы на пастаўку нафты і газу ў краіны Заходняй Еўропы з сустрэчнай пастаўкай з гэтых краін труб для будаўніцтва нафта- і газаправодаў. У выніку ў нашу краіну хлынулі так званыя нафтадолары.

За гэтыя сродкі на Захадзе закуплялася імпартнае абсталяванне, узводзіліся такія гіганты, як КамАЗ і ВАЗ, заводы нафтахіміі. Пачалася «стройка века» — Байкала-Амурская магістраль. Хуткімі тэмпамі развіваўся ваенна-прамысловы комплекс, праглынаючы штогод велізарныя сродкі. За кошт нафтадолараў ажыццяўлялася шчодрае фінансаванне «национально-освободительных движений» і грашовая падтрымка замежных кампартый. Рэшткі ішлі на закупку прадуктаў харчавання і вырабаў лёгкай прамысловасці, медыкаментаў. Але ўжо к пачатку 80-х гадоў у выніку інтэнсіўнай эксплуатацыі лёгкадаступныя радовішчы прыродных багаццяў былі вычарпаны. Асваенне ж буйных новых радовішчаў нафты і газу ў Сібіры і на Поўначы патрабавала велізарных капіталаўкладанняў. Таму ўжо з 1972 года з'яўляюцца прыкметы эканамічнага крызісу. Паток нафтадолараў паступова слабеў, а тыя сродкі, якія паступілі раней, былі выкарыстаны далёка не лепшым чынам. Якраз у той час пачаўся паступовы, спачатку не вельмі значны рост цэн на мясапрадукты. Узніклі і пашырыліся цяжкасці з набыццём розных тавараў, у выніку — выраслі чэргі. Якраз тады ў краіне з'явілася грашовая маса, не забяспечаная таварамі. Каб выправіць становішча і стварыць бачнасць стабільнасці рубля, пачалося масавае спойванне насельніцтва. Літаральна ўсе харчовыя крамы ў застойныя часы былі завалены нізкаякасным вінов —«чарнілам», вытворчасць якога абыходзілася танна. Паколькі п'янства набыло масавы характар, а тэхналагічная база гаспадаркі не ўдасканальвалася, тэмпы вытворчасці паўсюдна пачалі хутка падаць.

У такіх умовах кіраўніцтва краіны вымушана было даць адбой масаваму спойванню і ўвяло ў дзеянне «сухі закон». Вядома, гэта мера была вымушанай. Яна пры тагачаснай сістэме не магла даць тых станоўчых вынікаў, на якія крамлёўскія «правадыры» разлічвалі.

Яшчэ адзін міф, які зараз былой наменклатурай настойліва прапагандуецца, закранае становішча спраў у сельскай гаспадарцы Беларусі. Нам назойліва ўкладваецца ў вушы, што без калгасаў сялянам і гараджанам не будзе чаго есці, а цяпер па вытворчасці мяса на душу насельніцтва мы нібыта знаходзімся на ўзроўні перадавых краін Еўропы. Праўда, пры гэтым замоўчваецца, што ў нас прыпадае ворнай зямлі на душу насельніцтва ў два разы больш, чым у еўрапейскіх краінах з рыначнай эканомікай. Замоўчваецца таксама, што чвэрць неабходнага збожжа ў рэспубліку імпартуецца.

Калі ўлічыць згаданыя паказчыкі, то робіцца відавочным, што вытворчасць усёй сельскагаспадарчай прадукцыі з адзінкі плошчы ворнай зямлі на Беларусі амаль у тры разы ніжэй, чым у краінах Еўрапейскай супольнасці. Між тым кліматычныя ўмовы для сельскай гаспадаркі ў нас куды лепшыя, чым, напрыклад, у Фінляндыі ці Нарвегіі.

Часта ў якасці доказаў «высоких достижений социалистической колхозно-совхозной системы» называюцца такія гаспадаркі, як «Рассвет» імя Арлоўскага ў Магілёўскай вобласці ці «Аснежыцкі» ў Пінскім раёне Брэсцкай вобласці. Але ж такіх ва ўсёй рэспубліцы — адзінкі. Яны — своеасаблівыя «пацёмкінскія вёскі», што ні ў якім разе не характарызуюць агульны стан беларускай сельскагаспадарчай вытворчасці. Не выклікае сумненняў і тое, што створаны яны за наш з вамі кошт, з адзінай мэтай: дэманстраваць ілюзію пераваг калгасна-саўгаснага ладу.

Рэальныя, а не міфічныя «достижения» калгасаў большасць з нас кожны дзень бачыць на паліцах нашых крам, у бясконцых чэргах, адчувае па сваіх кішэнях пасля наведвання гэтых крам, дзе па «кусачых», а то і ўвогуле недаступных цэнах сёння гандлююць «плодами достижений» калгасна-саўгаснага ладу.

Такім чынам, не выклікае сумненняў, што той тупік, у якім апынулася Беларусь, тлумачыцца ў першую чаргу доўгім усеўладным панаваннем антычалавечай камуністычнай сістэмы. Ідэалагічным падмуркам яе служыла камуністычная міфалогія. Чым хутчэй мы развітаемся з гэтымі міфамі, тым лепш.

Анісій РОЛІК, інжынер.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014





# НЕ ВЫХОЎВАЙЦЕ, СУРОДЗІЧЫ, ПАПРАШАЕК

*Ліст з Англіі*

**DAILY TELEGRAPH, LONDON. ENGLAND 08.01.93**

## Chernobyl charity racket children had free holidays

**By Bruce Johnston in Rome and Marcus Warren in Moscow**

WESTERN countries that have given free holidays to child victims of the 1986 Chernobyl disaster, in up by opportunists. In the most celebrated incident, a group of children invited to Germany turned Suspicions were first aroused in Germany last summer after a group of «Chernobyl children» was found

**Мяркую, тое, пра што я вырашыў сказаць, трэба рабіць цяпер, бо адзін «сезон» нядаўна скончыўся, а наступны неўзабаве пачнецца, і многія ангельскія беларусы думаюць пра гэта з пачуццём пэўнай разгубленасці: як быць? Як быць, калі бачыш, што ў адказ на самыя шчырыя прыязныя пачуцці цябе імкнуцца ашукаць? А ці не самае галоўнае — ашукваюць уласную будучыню, дзяцей.**

**Я звярнуў на гэта ўвагу яшчэ два гады таму, калі наведаў групу дзяцей, якія прыехалі з Беларусі ў Вялікабрытанію ў якасці пацярпелых ад чарнобыльскай трагедыі. Як у нас ім спачувалі, як хацелі для іх нешта добрае зрабіць! Але падчас гутарак з людзьмі, якія тых дзяцей прынялі ў свае сем'і ды апекавалі, высветлілася, што яны ў разгубленасці: толькі *адна асоба* аказалася крыху заражана радыяцыяй, а астатнія былі, дзякаваць Богу, здаровенькія ды яшчэ якія. Выпадак? Каб жа ды так! За апошнія два гады ў мяне, і не толькі ў мяне склалася ўражанне пра пэўную заганную сістэму.**

**Але ўстрымаюся пакуль ад уласных каментараў і звярну ўвагу на расследаванні заходнееўрапейскіх журналістаў. Такіх нямала. Вось адно з іх у вельмі аўтарытэтнай газеце «Дэйлі тэлеграф» (Лондан), — «Рэкет з-за чарнобыльскай дабрачыннасці, альбо бясплатныя канікулы для дзяцей». Тут гаворыцца, што парушэнні справядлівасці пры адпраўцы дзяцей у якасці ахвяр чарнобыльскай трагедыі ў заходнія краіны мелі сістэматычны характар. Цяпер даследуецца дзейнасць пэўных дабрачынных устаноў, якія свядома арганізоўвалі за кошт міласэрнасці заходнееўрапейцаў паездкі на Захад дзяцей багатых чыноўнікаў, якія нават і блізка не былі ў радыяцыйнай зоне. У большасці выпадкаў, адзначае карэспандэнт «Дэйлі тэлеграф», групы дзяцей, якіх прывозілі ў Італію, Германію, складаліся выключна са сваякоў кіраўнікоў дабрачынных арганізацый або туды ўваходзілі таксама дзеці ўрадавых служачых. У прыватнасці, апошнім летам у Германіі адпачывала група «чарнобыльскіх дзяцей», якія ўсе мелі выдатнае здароўе. Да таго ж германскія сем'і, у якіх жылі гэтыя дзеці, былі проста здзіўлены наяўнасцю ў сваіх гасцей вялікай колькасці цвёрдай валюты. Праверкай высветлена, што гэта былі дзеці з прывілеяваных сем'яў і тых, у каго бацькі заняты ў розных камерцыйных структурах. Карэспандэнт звяртае ўвагу і на акалічнасць, што сем'і на Захадзе, гасціннасцю якіх карысталіся «пацярпелыя ад Чарнобыля», мякка кажучы, мелі не такі дастатак, каб шыкаваць. Падобныя вандроўкі груп дзяцей заможных бацькоў з Усходу, адзначаецца ў артыкуле, спараджаюць небяспеку для саміх канікулянтаў, прыцягваючы да іх увагу злачынных элементаў, у тым ліку рэкеціраў.**

**Прывяду яшчэ адно журналісцкае сведчанне — пра падзеі ўжо не ў Еўропе, а ў далёкай Аўстраліі. Яно надрукавана ў царкоўна-грамадскім часопісе «Голас часу», які выдаецца ў Англіі (№ 26, верасень-кастрычнік 1993 г.). Карэспандэнцыя мае назву «Хворыя» дзеці з Чарнобыльскай зоны ў горадзе Мельбурн (Аўстралія)».**

**Беларусы Аўстраліі,— піша карэспандэнт Паўлюк Дуброўскі,— зарганізавалі сваё нацыянальна-культурнае жыццё на эміграцыі грунтоўна... і ёсць надзея, што так будзе і надалей, бо маладое пакаленне пераймае ініцыятыву бацькоў. Ці гэта малыя прадпрыемствы, ці маштабныя, усюды людзі блізка да сэрца прымаюць беларускія справы і імкнуцца прыняць у іх актыўны ўдзел. Калі здарылася чарнобыльская трагедыя,— працягвае карэспандэнт,— беларусы Аўстраліі паспяшаліся з дапамогай. Стварылі Чарнобыльскі фонд. Пару гадоў таму старшыня рады Фонда сп. А. Груша завёз медыкаменты на Беларусь для пацярпелых ад радыяцыі дзяцей. На гэтым беларусы Аўстраліі не спыніліся. Яны пачалі рабіць захады, каб уладкаваць у сябе хворых дзяцей з Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Цяжка было наладзіць сувязь з тамтэйшай адміністрацыяй. Неяк адгукнуўся сп. Г. Грушавы. Але ён папрасіў падазрона вялікую суму грошай, а да таго ж аб гэтым чалавеку не зусім прыязна пісала некаторая прэса.**

**Урэшце,— працягвае карэспандэнт,— наладзіўся кантакт з дырэктарам экалагічнай медыцыны ў г. Магілёве сп. Валерыем Лісітчыным. Узгоднена было, каб прыняць 15 дзяцей на два месяцы — з 1.04.93 па 27.05.93 г. Замест 15 прыехала 10, чатыры хлопчыкі і шэсць дзяўчынак ад 9 і вышэй гадоў. У гэтай групе быў і сам дырэктар сп. Лісітчын, ягоная дачка, сын, былі два хлапцы і дзядзькі. На лётнішчы гасцей спаткалі з гонарам, але госці,— зазначае карэспандэнт,— аказаліся дзіўнымі. Напачатку высветлілася: ні адно дзіця не толькі не гаварыла па-беларуску, але наадварот — увогуле ставіліся яны варожа да беларускай мовы. Але ж госці, ды яшчэ і пацярпелыя, і ім быў аказаны гасцінны прыём. Прыезджых разабралі беларускія сем'і, іх вазілі па цікавых мясцінах, вадзілі па музеях, у заалагічны нацыянальны сад, на пляжы і інш. Урэшце ладзілі таксама спатканні з беларускай грамадскасцю Мельбурна, завялі ў сваю Праваслаўную царкву, пабудаваную на ахвяраванні эмігрантаў, нарэшце — у школу. Але ўсё гэта прыезджых мала цікавіла, дзеці адыходзілі ад эмігрантаў убок, сядалі і пачыналі заўзята гуляць у карты. Калі ж гасцям паведамілі неяк, што павязуць іх у добрую клініку на спецыяльнае абследаванне, дык пачуліся галасы, што яны не хворыя. Усё ж іх угаварылі паехаць. А ў клініцы сапраўды высветлілася, што, дзякаваць Богу, ніхто не меў ні каліва радыяцыі. Калі запыталі ў праваднíка,— заўважае карэспандэнт,— чаму прывёз здаровых дзяцей, а не такіх, якім патрэбна дапамога, той адказаў: «Как можно хворых дзяцей вазіць?!»**

**Пасля высветлілася, што з гэтых дзяцей некаторыя за кошт дабрачыннасці былі ўжо па два і тры разы ў розных краінах, а сам праваднік і яго сям'я другі раз у Аўстраліі, а дзеці аказаліся заможных ці вяльможных бацькоў.**

**Аднак гэта яшчэ не ўсё,— зазначае карэспандэнт.— Паважаны дырэктар В. Лісітчын хоча прывезці ў Аўстралію ў наступным годзе 30 дзяцей на 5 месяцаў. Мэта прыезду — вучыцца ў школах Аўстраліі. Цяпер шукае каардынатара, спонсара. Хто яму паспрыяе?**

**Дзесяць дзяцей з Беларусі два месяцы правялі сярод беларускіх сем'яў у Аўстраліі,— піша карэспандэнт «Голасу часу»,— на ад'езд ім яшчэ купілі і падарункі. Гасцей адвезлі на лётнішча. Але ніводнае дзіця вяльможных ды, відаць, і багатых бацькоў з Беларусі нават не падышло пры развітанні да сваіх апекуноў і не падзякавала за гасціннасць. Так мы памаглі хворым дзецям,— заканчвае сваю карэспандэнцыю Паўлюк Дуброўскі.**

**Хворым? Думаю, сапраўды так. Хвароба гэтая, дарэчы, вельмі небяспечная і для саміх бацькоў гэтых няшчасных. Бо яны змалку вучацца маніць і выкарыстоўваць у карыслівых мэтах людскую дабрачыннасць. Як бы на старасці гэтым бацькам не заплакаць горкімі слязьмі.**

**На канец яшчэ адна справа. Я тут, у Рэгбі, пазнаёміўся з расійскімі дзяўчынкамі, якія прыехалі на адзін год для вучобы ў ангельскай школе. Узрост: 10 і 12 гадоў. Гэтыя школьніцы слаба ведалі ангельскую мову. Таму мала што разумелі, а ўрэшце і мала чаму навучыліся. Акрамя, відаць, прыёмаў, як бавіць вольны час. Да таго ж, вярнуўшыся ў Расію, яны не проста страцілі адзін год для навукі, але і пэўную частку здольнасці ўвогуле эфектыўна вучыцца. Я пра гэта пішу, бо ведаю, што і ў Беларусі рыхтуюць дзяцей для падобных паездак «за границу» да школ. Кім яны вернуцца на Бацькаўшчыну? Але дзеці, канешне, не разумеюць той вялікай небяспекі, якая іх падсцерагае, ім гэта можа здавацца цікавай прыгодай. Тады, на маю шчырую і добрасардэчную думку, над гэтым, пакуль не позна, няхай задумаюцца іх бацькі. Лічу, што гэтай справай павінна неадкладна зацікавіцца Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і выпрацаваць адпаведны закон. Бо калі небяспечна выхоўваць у дзяцей сіндром папрашайніцтва ды махлярства з дапамогаю «бясплатных» замежных канікулаў праз нейчую дабрачыннасць, то апошняе больш небяспечна ў шмат разоў.**

**З пашанай да суродзічаў на Беларусі — Міхал ШВЭДЗЮК.**
Рэгбі, Англія.

# Беларуская мова ў эфіры

***Гутарка з дырэктарам курсаў павышэння кваліфікацыі работнікаў Белдзяржтэлерадыёкампаніі Г. М. Гумен***

**— Галіна Міхайлаўна, час ад часу да нас у рэдакцыю прыходзяць лісты, дзе чытачы выказваюць заўвагі, што творчыя работнікі тэлебачання і радыёвяшчання не дужа добра валодаюць беларускай мовай. Я ведаю, што ў Вас працуюць курсы па павышэнні кваліфікацыі для ўсіх работнікаў Белтэлерадыёкампаніі. Якое месца там адведзена вывучэнню беларускай мовы?**

— Курсы павышэння кваліфікацыі супрацоўнікаў тэлебачання і радыёвяшчання створаны ў кастрычніку 1970 года. Штогод на іх навучаецца звыш 300 чалавек: рэжысёры і гукарэжысёры, рэдактары і дыктары радыё і тэлебачання, электрамеханікі, інжынеры тэлецэнтра, асістэнты рэжысёраў і апаратараў. Пры планаванні заняткаў розных катэгорый слухачоў улічваецца ўзровень іх падрыхтоўкі і прафесіянальных ведаў, а таксама творчыя планы адпаведных рэдакцый. І ў нашых планах прадугледжваюцца лекцыйныя і практычныя заняткі, творчыя сустрэчы, разбор канкрэтных сітуацый, індывідуальныя заняткі са слухачамі. Але мы праводзім не толькі прафесіянальную вучобу, а і вучобу па ўдасканаленні беларускай мовы.

**— Калі пачалі праводзіцца такія заняткі?**

— З 1982 года. Нашым першым выкладчыкам па нормах сучаснай беларускай мовы быў Пётр Вікенцьевіч Садоўскі. Ён выкладаў рэдактарам, дыктарам радыё і тэлебачання. Дзякуючы карпатлівай працы Пятра Вікенцьевіча, нашы дыктары сталі ў сваёй большасці сапраўднымі прафесіяналамі. Праўда, даводзілася працаваць шмат. Тады яшчэ не было такой дасканалай матэрыяльнай базы, як цяпер. Зараз мы маем каляровы тэлевізар, відэамагнітафон, відэатэку, лінгафонны кабінет, фанатэку, камп'ютэрны клас, манітор і інш. Слухачы падтрымліваюць пастаянную сувязь з рэдакцыямі, а пасля праходжання вучэбнага курсу маюць магчымасць практычнай стажыроўкі ў адпаведных рэдакцыях і тэхнічных службах. З 1983 года пачалі праводзіць вучобу па ўдасканаленні беларускай мовы не толькі для рэдактараў і дыктараў, а і для ўсіх слухачоў нашых курсаў. Тады ж быў распрацаваны вучэбны план заняткаў па нормах сучаснай беларускай мовы і па культуры літаратурнай мовы, гісторыі культуры Беларусі, тэхніцы культуры мовы, гісторыі мастацтвазнаўства Беларусі і г.д. Вучэбныя планы зацвярджаюцца старшынёй Дзяржтэлерадыёкампаніі і яго намеснікамі. Увогуле пытанні работы курсаў павышэння кваліфікацыі знаходзяцца пад кантролем кіраўніцтва Дзяржтэлерадыёкампаніі і заслухоўваюцца на калегіі.

**— А хто выкладае на курсах? Ці ёсць у вас штатныя супрацоўнікі?**

— На курсах штатнага прафесарска-выкладчыцкага складу няма. На ўмовах пагадзіннай аплаты сюды запрашаюцца выкладчыкі ВНУ, спецыялісты з Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Напрыклад, на курсах праведзена вучоба ўсіх рэжысёраў і іх асістэнтаў на пульце відэарэжысёра па электроннаму сінтэзатару тэлевізійных адлюстраванняў. Што да заняткаў па ўдасканаленні беларускай мовы, то ў нас лекцыі па гісторыі культуры Беларусі чытае выкладчык БДУ Віктар Каратай, па нормах сучаснай беларускай мовы — выкладчык Менскага лінгвістычнага універсітэта Зміцер Саўка і выкладчык БДУ Мікалай Каваленка, па культуры мовы — навуковы супрацоўнік Акадэміі навук Марына Лычкоўская і прафесар, доктар філалагічных навук Арнольд Міхневіч. Тэхніку культуры мовы на курсах выкладаюць прарэктар па навучальнай працы Беларускай акадэміі мастацтваў Андрэй Каляда і заслужаны артыст Беларусі Ільля Курган, гісторыю мастацтва Беларусі — доктар фізіка-матэматычных навук Юры Хадыка. З лекцыямі перад слухачамі курсаў час ад часу выступаюць вядомыя пісьменнікі, літаратуразнаўцы, моваведы. Нашымі гасцямі былі Васіль Быкаў, Янка Брыль, Алесь Адамовіч, Адам Мальдзіс, Канстанцін Тарасаў, Віктар Шматаў, Леанід Лыч, Ганна Арашонкава, Валянціна Лемцюгова, Валерый Рыбараў. Але хочацца засяродзіць увагу на тым, што адсутнасць на курсах павышэння кваліфікацыі штатных выкладчыкаў абмяжоўвае неабходную метадычную работу.

**— Які тэрмін навучання на вашых курсах?**

— З адрывам ад работы — да аднаго месяца, без адрыву — да 6 месяцаў. Аб'ёмы вучэбных планаў складаюць 45—180 гадзін.

**— Ці падтрымліваюцца кантакты з абласнымі тэлерадыёаб'яднаннямі?**

— Абавязкова. Штогод з абласных тэлерадыёаб'яднанняў накіроўваюцца на навучанне тэле- і кінаапаратары. Але тут трэба адзначыць, што за апошнія гады кантынгент слухачоў вельмі значна скараціўся з-за недахопу фінансавых сродкаў.

**— Галіна Міхайлаўна, ці атрымліваюць слухачы дакумент аб тым, што яны скончылі курсы?**

— Безумоўна. Пасля заканчэння вучобы слухачы здаюць экзамены або залік, пішуць курсавыя работы, тэматыка якіх звязана з інтарэсамі прадпрыемства. Затым ім выдаецца пасведчанне аб заканчэнні курсаў. Пасля заканчэння вучобы слухачы курсаў запаўняюць анкеты, дзе выказваюць свае водгукі аб вучобе, свае пажаданні на будучае.

**— І якія водгукі курсантаў?**

— У асноўным станоўчыя. Ацэньваючы работу курсаў, камісія незалежных экспертаў (у яе склад уваходзілі намеснік міністра адукацыі А. М. Гарнак, галоўны інспектар упраўлення павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі спецыялістаў Міністэрства адукацыі М. І. Матвейчык, начальнік аддзела кадраў Белдзяржтэлерадыёкампаніі Н. Ф. Зыль) лічыць, што дзейнасць курсаў у асноўным адпавядае дзяржаўным патрабаванням. На маю думку, пажадана было б мець больш метадычных распрацовак у метадычным кабінеце па роднай і замежных мовах, аўдыё- і відэазапісаў вучэбных праграм па беларускай і замежных мовах, спецыяльнай літаратуры. Праўда, у апошні час назіраюцца цяжкасці з камплектаваннем груп з адрывам ад работы. Большасць слухачоў павышае сваю кваліфікацыю без адрыву ад работы, што адмоўна ўплывае на якасць ведаў.

Так што праблемы культуры валодання беларускім словам у асяродку радыё- і тэлежурналістаў пакуль існуе. Тым не меней агульнымі намаганнямі (і з дапамогай чытачоў «Нашага слова») усё ж спадзяёмся на лепшае.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

Л. С. ІВАНОВА, С. А. КУЗНЯЕВА.

## Беларусы: культурнае жыццё ў XIII — XVIII стст.

*Працяг. Пачатак у № 48.*

**Папулярным жанрам свецкай літаратуры былі і перакладныя творы старажытнай грэка-візантыйскай і больш новай еўрапейскай пісьменнасці: рыцарскія раманы — «Аповесць аб Троі», «Александрыя» (гісторыя жыцця і воінскіх дзеянняў славутага Аляксандра Македонскага), «Аповесць аб Трышчане», «Аповесць аб Баве», гістарычныя аповесці — «Гісторыя іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія, «Гісторыя аб Атыле, каралю ўгорскім», «Сказание об Дракуле, князю Муцьянские зямлі», аповесць «Пра пабоішча Мамая» і інш.**

**Якасна новы этап у развіцці беларускай старажытнай літаратуры звязаны з узнікненнем беларускага і беларуска-літоўскага летапісання. Першы беларуска-літоўскі звод, складзены ў канцы 1420-х — пачатку 30-х гг. у Смаленску, «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», «Хроніка Быхаўца» — найбольш поўны летапісны звод, напісаны з пазіцый агульнадзяржаўнага патрыятызму з выразнымі белетрыстычнымі тэндэнцыямі (сярэдзіна XVI ст.). Беларуска-літоўскія летапісы выкарыстоўваліся як крыніцы ў хроніках М. Стрыйкоўскага, А. Гваньіні, М. Бельскага.**

**У XVII ст. агульнадзяржаўныя летапісы і хронікі саступілі месца новым гістарычным творам, пераважна больш вузкага летапісна-мемуарнага напрамку, біяграфічным «дыярышам» (дзённікам), вопісам сеймавых пасяджэнняў, непасрэдна палітычным, гістарыка-дакументальным помнікам. Выдатным творам беларускага летапісання пачатку XVII ст. была «Баркулабаўская хроніка», у якой з дэмакратычных пазіцый асвятляліся дзяржаўныя і мясцовыя падзеі, жыццё простага народа.**

**Шырокай папулярнасцю на Беларусі і Украіне карысталася палемічная літаратура, рэлігійна-палітычная публіцыстыка. Творы Хрыстафора Філалета, Мялеція Сматрыцкага, Лявонція Карповіча, Іпація Пацея, братоў Зізаніяў, Афанасія Філіповіча адыгралі значную ролю ў абуджэнні нацыянальнай і грамадска-палітычнай свядомасці беларусаў і украінцаў.**

**Новай з'явай у беларускай літаратуры XVII ст. была палітычная сатыра («Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча»), дзе ў камічных, гратэскавых формах высмейваліся заганы дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай.**

**Уздым беларускай паэзіі ў другой палове XVI—XVII стст. адлюстраваны ў творах Андрэя Рымшы, Сімяона Полацкага, Ігната Іяўлевіча. Сапраўдны гімн роднай мове і культуры адчуваецца ў вершы паэта пачатку XVII ст. Яна Казіміра Пашкевіча:**

**«Полска квитнет лацiною,**
**Литва квитнет русчизною;**
**Без той в Полще не пребудешь,**
**Без сей в Литве блазном будешь».**

**Вялікі ўклад у развіццё беларускай і рускай культуры зрабіў паэт, драматург, кнігавыдавец, грамадскі дзеяч Сімяон Полацкі, прыхільнік культурнага збліжэння з Захадам, які пераехаў у Маскву пасля войнаў сярэдзіны XVII ст.**

**Развіццё феадальных адносін у ВКЛ, запрыгоньванне сялянства, пашырэнне прывілеяў феадалаў абумовілі фарміраванне дзяржаўнага заканадаўства. Агульнаеўрапейскія тэндэнцыі развіцця права ў эпоху Адраджэння праявіліся ў Статутах ВКЛ 1529, 1566, 1588 гг.**

**Школьная адукацыя доўгі час знаходзілася пад патранатам духавенства. Школьнымі настаўнікамі ў асноўным былі святчэннаслужыцелі. У XV — першай палове XVI ст. сярод настаўнікаў з'яўляюцца асобы з універсітэцкай адукацыяй. Асноўныя вучэбныя кнігі праваслаўных школ (Псалтыр, Часасловец, Азбука) забяспечвалі пачатковую пісьменнасць. Шляхта карысталася паслугамі прыватных, хатніх педагогаў. Некаторыя магнаты выязджалі за мяжу са сваімі настаўнікамі. Прыватнае навучанне, замежная адукацыя каштавалі дорага, але студэнты-«ліцьвіны» сустракаюцца ва універсітэтах Еўропы ўжо ў XIV ст. У 1570 г. была заснавана першая езуіцкая калегія ў Вільні, пераўтвораная ў 1579 г. у Акадэмію.**

**У канцы XVI ст. — сярэдзіне XVII ст. важную ролю ў развіцці беларускай культуры, царкоўна-рэлігійным адраджэнні адыгрывалі брацтвы — спецыфічныя рэлігійна-нацыянальныя арганізацыі праваслаўнага гарадскога насельніцтва, у асноўным мяшчанства.**

**Пасля Люблінскай уніі 1569 г. паланізацыя адцягвала ад беларускай культуры значныя разумовыя сілы. А выцясненне з афіцыйнага ўжытку беларускай мовы (канец XVI ст.) прывяло да таго, што ў прозе, вершаскладанні, мемуарыстыцы Беларусі стала пераважаць польская мова. Ствараліся неспрыяльныя ўмовы для развіцця ўласна беларускай культуры і, у першую чаргу, літаратуры. Беларуская мова адыходзіла ў сферу бытавых зносін сярэдняй і дробнай шляхты, гараджан, сялянства. Запрыгоненае і бяспраўнае сялянства ў той час выконвала вялікую культурную місію — зберагала нацыянальныя традыцыі і родную мову, якая захоўвалася і развівалася ў народных казках, паданнях, абрадавых песнях, што суправаджалі беларуса ад калыскі да магілы. Каб пазбегчы небыцця, да фальклору прыпадала, часам зліваючыся з ім, беларуская літаратура.**

**Вызначальным мастацкім стылем першай паловы XVIII ст. заставалася барока, пышнае і раскошнае, у рэчышчы якога нараджалася духоўная і свецкая паэзія, школьная драма, кніжнае мастацтва, у тым ліку працы магілёўкіх гравёраў Васіля Вашчанкі і Фёдара Ангілейкі, шпалеры мануфактур Міра і Альбы, урэцка-налібоцкае шкло. Гэта быў час росквіту барочнай скульптуры. Яна упрыгожвала палацы, касцёлы шматлікіх каталіцкіх ордэнаў (скульптурныя ансамблі гродзенскага езуіцкага, пінскага францысканскага касцёлаў і інш.), уніяцкія храмы.**

**У сярэдзіне стагоддзя суіснаванне і змяшэнне старых і новых тэндэнцый, плыняў не толькі ў архітэктуры, але і ў грамадскай думцы, філасофіі, прыродазнаўстве, мастацтве, літаратуры становяцца нормай.**

**З сярэдзіны XVIII ст. моладзь Беларусі магла атрымаць больш свецкую, чым раней, адукацыю. Гэтаму садзейнічала рэформа піярскіх школ, якая праводзілася пад кіраўніцтвам С. Канарскага. Рэформа пахіснула манапольныя пазіцыі езуітаў у галіне асветы. У 1773 г. у Рэчы Паспалітай распачала дзейнасць Адукацыйная камісія — першае ў Еўропе міністэрства народнай асветы.**

**Фарміраванню светапогляду Асветніцтва і пашырэнню яго ідэй на Беларусі спрыяла шырокае распаўсюджванне ў краі твораў знакамітых польскіх (С. Сташыца, Г. Калантая) і заходнееўрапейскіх (Ж.-Ж. Русо, Ф. Вальтэра, Д. Дзідро, Д. Лока) асветнікаў. Адукаваныя жыхары Беларусі за гонар лічылі мець у сваіх бібліятэках вядомую французскую «Энцыклапедыю». Калі ў першай палове XVIII ст. на Беларусі дзейнічалі 2 друкарні, то ў другой палавіне іх было ўжо 11. З'явілася і першае мясцовае перыядычнае выданне «Газета гродзенска» (1776—80 гг.). Пашыраўся кнігагандаль. Павялічваліся прыватныя кнігазборы, самымі значнымі сярод якіх былі бібліятэкі магнатаў: нясвіжская — Радзівілаў, ружанская — Сапегаў, шчорсаўская — Храптовічаў.**

**Магнацкія сядзібы таго часу сталі буйнымі цэнтрамі свецкага культурнага жыцця. Радзівілы, Сапегі, Агінскія, Тызенгаўзы, Храптовічы, Тышкевічы акружалі сябе раскошай, не скупіліся запрашаць лепшых архітэктараў, мастакоў, музыкантаў. Веліч і прыгажосць іх палацаў, пабудаваных часта па праектах вядомых дойлідаў, дапаўнялі паркавыя ансамблі — выдатныя ўзоры садова-паркавага мастацтва. Багата аздабляліся палацавыя інтэр'еры.**

**Маёнткавы прыгонны тэатр другой паловы XVIII ст. — выдатная з'ява ў гісторыі і культуры Беларусі. Буйныя тэатры трымалі Радзівілы ў Нясвіжы і Слуцку, М. К. Агінскі — у Слоніме, А. Тызенгаўз — у Гародні. Свае «парнасы» мелі ў канцы стагоддзя і рускія вяльможы, якім Кацярына II падаравала землі на тэрыторыі Беларусі, што адышла ад Расіі па першаму падзелу Рэчы Паспалітай: З. Р. Чарнышоў у Магілёве і Чачэрску, С. Г. Зорыч — у Шклове. Веліч і раскоша пастановак тэатраў князя Караля Радзівіла, вядомага па мянушцы «Пане каханку», у Нясвіжы і былога кацярынінскага фаварыта графа Сямёна Зорыча ў Шклове, спаборнічалі з багаццем варшаўскай і пецярбургскай сцэн.**

**Маёнткавыя прыгонныя тэатры Беларусі ў канцы XVIII ст. зніклі з гістарычнай арэны. Паступова пачала пераважаць свецкая плынь і ў шматмоўнай літаратуры Беларусі. Тут у канцы XVIII ст. друкаваліся і чыталіся кнігі на польскай, французскай, лацінскай, нямецкай, рускай, яўрэйскай, латышскай мовах. Вядучая роля належала польскамоўнай літаратуры. З Варшавы і Вільні ішлі на Беларусь значная колькасць кніг і мода на класіцызм і сентыменталізм. Жыццёвыя і творчыя лёсы многіх польскіх пісьменнікаў былі цесна звязаны з беларускім краем.**

**У канцы XVIII ст. у нетрах культуры Беларусі зараджаецца цікавасць да народнага жыцця, фальклору. Мода на сентыменталізм спрыяла з'яўленню ў разнамоўнай літаратуры краю і на сцэнах магнацкіх тэатраў новых герояў — людзей з ніжэйшых саслоўяў (оперы «Агатка», «Новае сямейства»). З сцвярджэннем чалавечай годнасці простага чалавека быў звязаны дэмакратычны струмень культуры Беларусі, які выразна праявіўся і даў плённы вынік у наступным, XIX стагоддзі.**

**Тэкст да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ.**

# ТАРТАРЫЯ — МАСКОВІЯ — РАСІЯ

***8 верасня гэтага года ў № 36 «Нашага слова» было надрукавана гісторыка-публіцыстычнае эсэ Эрнэста Ялугіна «Рускія... рускія — хто?». Публікацыя не засталася незаўважанай. Даём слова Я. Цішуку — нашаму чытачу з Масквы, які працягвае гэту актуальную сёння размову.***

НЕ САКРЭТ, што сугучнасць назваў нашай краіны і нашага ўсходняга суседа зараз шырока выкарыстоўваецца імперскімі рэваншыстамі дзеля ідэалагічнага абгрунтавання іх экспансіяніецкіх памкненняў. Доказаў гэтаму шмат, у ліку іх, напрыклад, самаўпэўненае выказванне аднаго з кіраўнікоў расійскай дэлегацыі на апошнім «Славянскім базары» ў Віцебску: «Россия и Белоруссия — суть слова одного корня, и быть им вместе!»

У сувязі з гэтым, відаць, будзе не лішнім нагадаць, што некалькі стагоддзяў таму якраз з падобнымі палітычнымі мэтамі абыгрывалася «ответственность Москвы» за лёс сусветнага праваслаўя пасля падзення Візантыі. Чым усё гэта скончылася для саміх рускіх і для беларусаў, зараз агульнавядома.

Лічу, што сёння неабходна яшчэ раз асэнсаваць некаторыя гістарычныя факты. Устаноўлена, што рускі этнас сфарміраваўся ў выніку зліцця славянскага насельніцтва, якое трапіла ў склад Залатой Арды (паўночна-ўсходнія ўскраіны Кіеўскай дзяржавы — княствы Уладзімірскае, Суздальскае, Яраслаўскае, Цвярское, Разанскае) і цюркскіх заваёўнікаў з Алтая пры пэўнай ролі карэнных фіна-ўгорскіх народаў тых мясцін.

Тэрміны ж «рускі, Расія» ўзніклі значна пазней, і, дарэчы, Кіеўская дзяржава стала штучна называцца «Кіеўскай Руссю» толькі ў мінулым стагоддзі. Акрэсленыя палітычныя мэты такіх маніпуляцый відавочныя.

Прыкладна да сярэдзіны XVI стагоддзя дзяржава з цэнтрам у Маскве на тагачасных еўрапейскіх картах ва ўсіх выпадках называлася Тартарыяй (Tartaria). І толькі з канца згаданага стагоддзя за ёй замацавалася найменне «Масковія». А Расіяй гэта краіна стала называцца практычна толькі з пятроўскіх часоў. Дарэчы, гэты тэрмін найперш узнік у мове немцаў і шведаў — суседніх народаў, дзе слова «*Ruβ*» і адпаведны яму прыметнік абазначаюць «сажа, копаць, задымлены, мурзаты». Менавіта з нямецкай і шведскай моў тэрмін распаўсюдзіўся па Еўропе.

І сёння для нямецкага вуха, напрыклад, слова «*Ruβland*» (Расія) намінальна гучыць як «Мурзатая краіна». Гэта можа засведчыць любы немец.

Узнікненню гэтага слова, відаць, садзейнічаў знешні выгляд простых насельнікаў Тартарыі-Масковіі. Агульнавядома, што тады ў гэтай дзяржаве асноўным тыпам жытла з'яўлялася курная хата, якая ацяплялася звычайным вогнішчам, без коміна. У той жа час у Вялікім княстве Літоўскім, на Украіне і ў Польшчы на такое жытло даўно забыліся, там ужо добра ведалі печы агульнаеўрапейскай канструкцыі з вывадам дыму з хаты праз комін.

У дачыненні да нашай краіны найменне «Белоруссия» было ўведзена Паўлам І для стварэння ілюзіі пэўнай роднасці тутэйшага праваслаўнага насельніцтва з Расіяй. Тады ж, да слова, былі вынайдзены тэрміны «Малороссия», «Новороссия», якімі пачалі называць вялікаўкраінскія і паўднёваўкраінскія землі. У Еўропе паходжанне слова «Россия» даўно высветлена. Але расійскімі імперскімі гісторыкамі гэта акалічнасць па-ранейшаму старанна замоўчваецца. Нічога, зрэшты, тут дзіўнага, бо і сёння Расія прэтэндуе на ролю законнай пераемніцы і Кіеўскай дзяржавы і Вялікага княства Літоўскага. Таму гістарычная этымалогія слова «Россия», зразумела, ніяк не пасуе да цяперашніх расійскіх амбіцый. Ды і зыходны сэнс згаданага тэрміна далёка не прывабны на смак, ганарыцца ім неяк няёмка. Але ж менавіта такой гэту краіну ў свой час убачылі еўрапейцы, таму і далі ёй адпаведную назву.

**Я. ЦІШУК,**
**кандыдат медыцынскіх навук.**

г. Масква.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



Вучымся!

*Удакладнім*

***Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА.***

# Знакі прыпынку пры аднародных членах сказа

## Аднародныя члены са спалучальнымі злучнікамі

1. Калі спалучальныя злучнікі *і, ды* звязваюць два аднародныя члены, то паміж гэтымі членамі знакі прыпынку не ставяцца: *Кругом чырванелі журавіны і брусніцы* (М. Лынькоў). *Гаманіў бор сасновы ўвечары і ўранку* (Янка Купала). *Я сам не ведаю, чаму люблю аснежныя прасторы і беларускую зіму* (Міхась Чарот). *Высокая ды роўная вырасла арабіна* (Якуб Колас).

2. Калі два аднародныя члены са злучнікам *і* выражаны дзеясловамі і суправаджаюцца дадатковымі адценнямі выніку, нечаканасці або неадпаведнасці, то пры лагічным выдзяленні гэтых адценняў паміж аднароднымі членамі ставіцца працяжнік: *Сымон глядзіць на паперу — і нічога не бачыць* (Змітрок Бядуля). *Лабановіч пакруціў галавою — і не сказаў ні слова* (Якуб Колас). *Хлопец параначаваў дзве ці тры ночы — і ўцёк* (І. Мележ). *Пачула моладзь — і ўзяла рыдлёўкі* (П. Панчанка).

Для ўзмацнення названых адценняў працяжнік ставіцца не перад злучнікам, а пасля яго: *Выглянуў круглы месяц і — зноў схаваўся за хмары* (Змітрок Бядуля). *Сабака ўбачыў гаспадара і — пабег* (Янка Маўр). *Ён ведаў: тая на зямлі жыве, што пела песні для яго, малога, і — гладзіла па светлай галаве* (С. Гаўрусёў).

Калі ж дадатковыя адценні лагічна не выдзяляюцца, тады знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі ў сказе не ставяцца: *Стары глядзіць на лямпу і думае* (Змітрок Бядуля). *Дзяўчынка згубіла маму і заплакала* (Янка Маўр). *Малады рабочы схіліўся над ціскамі і шоргае напільнікам* (І. Грамовіч).

3. Калі злучнік *і* звязвае два аднародныя члены, з якіх адзін выражаны асабовай формай дзеяслова, а другі — дзеясловам-выклічнікам, то паміж імі заўсёды ставіцца працяжнік. У залежнасці ад ступені нечаканасці або раптоўнасці пры змене дзеянняў працяжнік можа размяшчацца як перад злучнікам, так і пасля яго: *Пахіснулася хвоя — і бразь на зямлю* (Якуб Колас). *Машына забуксавала — і стоп!* (І. Мележ). *Бабуля набрала лыжачку мёду і — хоп яму ў рот* (Я. Брыль).

4. У тых выпадках, калі спалучальныя злучнікі *і, ды* паўтараюцца і звязваюць тры ці больш аднародных членаў у адным радзе, усе члены аддзяляюцца адзін ад другога коскай: *Ажына, і лотаць, і дзікі чарот разносілі водар навокал* (П. Глебка). *Лавіў наш дзядзька нератамі, і венцярамі, і сачкамі* (Якуб Колас).

Усе аднародныя члены аддзяляюцца адзін ад другога коскай, калі злучнік *і* паўтараецца і звязвае не ўсе, а толькі частку аднародных членаў: *Тут шаблі крышылі французы, тэўтоны, і шведы, і ляхі.* (П. Броўка). *Абоз імчыцца па завулку, грыміць, і трубіць, і звініць* (Кандрат Крапіва).

**Заўвага 1.** Калі злучнік *і* паўтараецца і злучае тры аднародныя члены, якія цесна звязаны адзінствам зместу і інтанацыяй, тады коска можа не ставіцца: *Ён швец і жнец і на дудзе ігрэц* (Б. Мікуліч). *Гора, здавалася, хату і вёску і Нарач перарасло* (Максім Танк). *Шмат злажылі казак і легенд і песень людзі пра балота, пра сваё Палессе* (Янка Купала).

**Заўвага 2.** Не ставіцца коска, калі сінтаксічная аднароднасць не супадае з лагічнай: у даным выпадку два аднародныя члены са злучнікам *і* паміж імі цесна звязаны адзінствам свайго зместу і аб'ядноўваюцца злучнікам *і* з трэцім аднародным членам: *На стале ляжалі кнігі і сшыткі і два яблыкі* (У. Краўчанка). *Мне хацелася смяяцца і спяваць і бегчы ўдалеч* (П. Панчанка).

**Заўвага 3.** Коска таксама не ставіцца, калі злучнік *і* паўтараецца і звязвае аднародныя члены не аднаго, а розных радоў, напрыклад: *Усе стаялі на вуліцы і віталі салдат і партызан* (С. Баранавых). *Шнуруюць бабы і дзяўчаты і кантралююць мох узняты і тыя кучачкі калюшак, дзе грыб схаваў свой капялюшык* (Якуб Колас).

**Заўвага 4.** У выразах тыпу *Адзін і тры і пяць (адзін ды тры ды пяць) разам складаюць дзевяць* коска не ставіцца (няма пералічэння аднародных членаў).

Калі ж пры трох ці большай колькасці аднародных членаў злучнікі *і, ды* не паўтараюцца, а размяшчаюцца толькі пры тым члене, які закрывае сабой аднародны рад, то перад ім коска не ставіцца, тады як астатнія члены аддзяляюцца адзін ад другога пры дапамозе коскі: *Крыўдна, горка і сорамна стала дзядзьку Марціну* (Якуб Колас). *Паплылі прад ім паляны, пушчы, цёмны лес, землі, моры, акіяны і прастор усіх нябес* (П. Броўка).

Коска не ставіцца і тады, калі тры і больш аднародных членаў у складзе аднаго рада звязаны злучнікамі *і, ды,* якія папераменна змяняюць адзін другога, напрыклад: *Грузды і махавікі ды лісічкі напоўнілі нашы кошыкі* (Змітрок Бядуля). *Ведала ўсё сэрца добрае матчына ды прасторы-палі і бары на Вушаччыне* (П. Броўка).

5. Калі спалучальны злучнік *і* паўтараецца і звязвае аднародныя члены ў пэўныя пары, то коска ставіцца толькі паміж гэтымі парамі: *Сосны і вязы, дубы і асіны вокала возера вартай пасталі* (Янка Купала). *Нас прымушалі змалку прывучвацца да плуга і касы, да пілы і сякеры, да гэбля і долата, да молата і кавадла* (К. Чорны).

Парныя групы ў сваю чаргу могуць аб'ядноўвацца пры дапамозе злучніка *і*, які паўтараецца, напрыклад: *Лясы ў нашай рэспубліцы можна сустрэць вялікія і малыя, і густыя і рэдкія, і хвойныя і змешаныя.* Але калі ў сказе ёсць толькі дзве парныя групы, то перад злучнікам *і*, які звязвае гэтыя групы, коска не ставіцца: *Хмары... збіраліся і разыходзіліся і зноў збіраліся і набрынялі дажджавым пылам* (Т. Хадкевіч).

6. Калі два аднародныя члены ў сказе звязаны пры дапамозе спалучальных слоў *потым, затым, пасля,* то паміж гэтымі членамі звычайна ставіцца коска: *З-за хмар выглянула сонца, потым зноў схавалася ў іх* (Э. Самуйлёнак). *Над людзьмі ўзняўся чырвоны сцяг, затым плакат з надпісам* (Кузьма Чорны).

**Заўвага.** Словы *потым, затым, пасля* набываюць спалучальна-супастаўляльнае значэнне, калі яны выступаюць у якасці сродкаў сувязі разам са злучнікам *а.* У такім выпадку аднародныя члены таксама аддзяляюцца коскай: *Рыпнулі, а потым грукнулі дзверы ў хаце, а затым і ў сенцах* (Якуб Колас). *Крушынскі пастаяў на двары, а пасля накіраваўся ў хату* (Змітрок Бядуля).

Калі ж у адным радзе знаходзяцца не два, а больш аднародных членаў, звязаных у пэўныя групы, то перад спалучальнымі словамі *потым, затым, пасля* на стыку гэтых груп можа ставіцца кропка з коскай: *Чалавек гаварыў лёгка, усміхаючыся; потым ляпнуў далонню па калене і сеў* (Кузьма Чорны). *Ён спыніўся і агледзеўся; затым паволі накіраваўся ў свой двор* (М. Зарэцкі). *Гадзіны са дзве мы адпачывалі; пасля ўсталі і пайшлі далей* (С. Баранавых).

# Адчынім брамку

Валянціна РАМАНЦЭВІЧ

ПАЧАТКІ РОДНАЕ МОВЫ

**Кажуць, колькі ты ведаеш моў, столькі разоў ты чалавек. Ды з гэтага вынікае, што чалавекам можна лічыцца толькі тады, калі ведаеш тую мову, на якой гаварылі твае продкі. Пакуль жа яшчэ ў нас, беларусаў, няма падставы ганарыцца такім высокім званнем. Большасць нашых братоў, што жыўцом улезлі ў чужацкую скуру, не хочуць вяртацца да роднага слова. Ды не дасць Бог загінуць нашай мове. Шмат хто з беларусаў ужо пачынае разумець, што гаварыць па-беларуску — не ганьба, а ганьба — не ведаць матчынай мовы.**

**З мэтай дапамагчы «пачаткоўцам» пазнаёміцца з фанетычнай і граматычнай сістэмамі беларускай літаратурнай мовы, з яе правапісам і слоўнікавым багаццем рэдакцыя запрасіла вядомага метадыста Валянціну Раманцэвіч, тады загадчыцу кабінета беларускай мовы Менскага ГІУНа, весці на старонках «Нашага слова» вочна-завочную школу беларускай мовы. Яна падрыхтавала цікавыя заняткі. Гэтыя асаблівыя ўрокі друкаваліся ў «Нашым слове» летась. Зычлівыя лісты і водгукі чытачоў ды настаўнікаў заахвоцілі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выдаць заняткі асобнай кніжкай. І вось дапаможнік «Пачаткі роднае мовы» Валянціны Раманцэвіч з'явіўся ў кнігарнях і кіёсках. Ён падрыхтаваны і надрукаваны ў выдавецтве «Навука і тэхніка».**

**У «Пачатках» выкладзены асноўныя нормы вымаўлення гукаў нашай мовы і некаторыя асноўныя правілы беларускага правапісу. Выкладзены проста і даходліва. Заняткі пачынаюцца з фанетычнай размінкі: прапануецца прачытаць уголас словы на папярэдне завучанае правіла, а таксама скорагаворкі, прыказкі і прымаўкі, вершы вядомых беларускіх паэтаў. У кожным раздзеле «Развіццё гутарковай мовы» падаюцца словы на пэўную тэму. Усе яны сабраны ў невялікі беларуска-расійскі слоўнік, надрукаваны ў канцы кнігі. Ён — толькі пачатак знаёмства з слоўным багаццем беларускай мовы. «Дзякуючы неўміручым народным крыніцам, што жывілі яе ва ўсе часы, выдатным майстрам слова, якія выпрацоўвалі і шліфавалі яе адметнасць і стылёвую разнастайнасць, шматвяковай пісьмовай традыцыі, што ўзыходзіць да часоў Статута Вялікага княства Літоўскага і Скарыны, яна назапасіла вялікае багацце. Гэтая кніжка толькі прачыняе «браму скарбаў». Далейшыя крокі павінны вывесці чытача і вучня ў шырокі свет нашай мовы, праз якую ён глыбей спазнае культуру і гісторыю, літаратуру і фальклор; псіхалогію і менталітэт беларусаў». Да гэтых слоў Генадзя Цыхуна, доктара філалагічных навук, сябра Рады ТБМ імя Ф. Скарыны, надрукаваных у прадмове да дапаможніка Валянціны Раманцэвіч, хочацца дадаць толькі просьбу працягваць заняткі: аматараў вучыцца беларушчыне не паменшала. Як пісаў наш славуты настаўнік Якуб Колас у сваёй несмяротнай «Новай зямлі», «навука аказалась не так страшна, як здавалась».**

**З. СІЦЬКО.**

*У РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «НАША СЛОВА» адбылася **прэзентацыя** кнігі Валянціны Раманцэвіч «Пачаткі роднае мовы», матэрыялы якой упершыню **друкаваліся** ў «НС» у рубрыцы «Вучымся». На **прэзентацыі** ўдзельнічалі прадстаўнікі Рэспубліканскай і Менскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны.*

## Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Міхаіл Гапеевіч БУЛАХАЎ** (2.VII.1919, в. Маслакі Горацкага раёна Магілёўскай вобл.) — вядомы беларускі мовазнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, з 1975 г. загадчык кафедры рускай мовы і агульнага мовазнаўства Менскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Міхаіла Гапеевіча цікавяць праблемы сучаснай беларускай мовы, яе гісторыя і ўзаемадзеянне з роднаснымі славянскімі мовамі. Ён — сааўтар падручнікаў і дапаможнікаў «Беларуская мова» (ч. 1—2, 1955, 1958, 1968), «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (ч. 1—3, 1957, 1959, 1961), «Граматыка беларускай мовы» (т. 1—2, 1962—66), «Нарысы па гісторыі беларускай мовы» (1957). Двойчы выдаваўся дапаможнік М. Г. Булахава «Практыкаванні і матэрыялы па гісторыі беларускай мовы» (1956, 1969). Сапраўдным навуковым подзвігам можна лічыць працу Міхаіла Гапеевіча над першым у свеце біябібліяграфічным слоўнікам «Усходнеславянскія мовазнаўцы» (т. 1—3, Мн., 1976—78), у якім ён паказаў таксама і навукова-педагагічную дзейнасць амаль усіх беларускіх мовазнаўцаў. Не мае аналагаў і складзены М. Г. Булахавым кароткі энцыклапедычны слоўнік «Слово о полку Игореве» в литературе, искусстве, науке» (Мн., 1989), над якім ён працаваў больш за 20 гадоў. У гэтай кнізе побач з біяграфіямі шматлікіх беларускіх вучоных, паэтаў, мастакоў, якія вывучалі, перакладалі і аздаблялі выданні «Слова...», падаюцца звесткі пра Іаіля (свецкае імя Іван) Быкоўскага. З імем гэтага расійскага духоўнага дзеяча, рэктара Яраслаўскай духоўнай семінарыі, цэнзара друкаваных выданняў Яраслаўскай вольнай друкарні, архімандрыта (1776—87) Спаса-Яраслаўскага манастыра звязана гісторыя знаходкі ў бібліятэцы гэтага манастыра рукапісу «Слова...». (М. Г. Булахаў мяркуе, што Іван Быкоўскі нарадзіўся на Беларусі.) У гэтым «Слоўніку» можна прачытаць меркаванне вядомага беларуска-польскага паэта Людвіга Кандратовіча (Сыракомлі): «...песня «Слово о полку Игореве», напісаная на беларускай мове невядомым аўтарам...»

З. С.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

## Хто стварыў літары, якімі мы сёння карыстаемся

Беларусы карысталіся і карыстаюцца двума альфабэтамі — кірыліцай ды лацінкай. Акрамя таго, беларускія татары, што жывуць на гэтай зямлі ўжо 600 гадоў, свае кнігі пісалі па-беларуску арабскімі літарамі.

Асабліва вялікі ўклад зрабілі беларусы ў развіццё кірыліцы. Гэтую азбуку, створаную ў 863 годзе хрысціянскімі прапаведнікамі Кірылам і Мяфодам для тагачаснай мовы паўднёвых славянаў, удасканалілі і спрасцілі беларускія перапісчыкі. Яны адкінулі лішнія і стварылі новыя літары, якіх не было ў пачатковай кірыліцы: **э**, **й**, а таксама адмысловую літару г (*ганак, мазгі*).

Францішак Скарына стварыў прыгожы друкарскі шрыфт, а канчаткова наблізіў формы літараў да сучасных Галляш Капіевіч (родам з Амсціслава), выпускнік Слуцкае гімназіі, кнігавыдавец і перакладчык. У 1700 годзе ў Амстэрдаме ён заснаваў друкарню і стварыў акругленыя, падобныя да лацінскіх, літары кірыліцы для тытульных аркушаў кніг. Шрыфты Капіевіча ўпадабаў расейскі цар Пётр I, які тады быў у Нідэрландах, і замовіў майстру літары для кніг.

Новы шрыфт на аснове Капіевічавых літараў Пётр I зацвердзіў у 1708 годзе. Так адбылася рэформа расейскай азбукі — уводзенне *грамадзянскіх*, г. зн. нецаркоўных літараў. Новыя літары яшчэ доўга звалі «амстердамские литеры», ці «белорусская азбука». Менавіта гэтымі літарамі цяпер карыстаюцца беларусы, расейцы, украінцы, македонцы, баўгары, сэрбы ды іншыя народы, што ўжываюць кірыліцу. Мовазнавец Ян Станкевіч назваў гэты шрыфт *капіеўкаю*.

**Вінцук ВЯЧОРКА.**

## Якія былі прычыны заняпаду Вялікага Княства Літоўскага?

Падзеі, што прывялі да глыбокага заняпаду Вялікага Княства Літоўскага, пачаліся ў сярэдзіне XVII стагоддзя. У 1654 годзе Маскоўская дзяржава, ажыццяўляючы свае даўнія планы захопу Беларусі, распачала пад сцягам абароны адзінаверцаў чарговую вайну. За 13 гадоў гэтай страшэннай вайны ў выніку баявых дзеянняў і акупацыйнай палітыкі маскоўскіх уладаў (дзікія спусташэнні, гвалт, масавы вывад людзей у няволю) краіна была ўвергнутая ў катастрафічны стан.

Бадай, ніводны народ Еўропы не перажываў гэтакага дэмаграфічнага рэгрэсу, як беларусы: з 2,9 мільёнаў даваеннага жыхарства ацалела толькі каля 1 мільёна 400 тысяч. Ува ўсходніх і паўночных паветах Беларусі не засталося і трэці насельніцтва. Гаспадарка краіны апынулася ў жудасным стане, а для аднаўлення яе не ставала ні людзей, ні сродкаў. Пусткаю ляжала палова ранейшага ворыва. На Віцебшчыне ды Мсціслаўшчыне закінутымі былі ледзь не ўсе землі.

Зруйнаваная Беларусь не паспела акрыяць, як зноўку, на самым пачатку XVIII стагоддзя, стала пабаявішчам чарговай вайны, цяпер ужо Расеі са Швецыяй. Паўночная вайна 1700—1721 гадоў забрала яшчэ блізу 800 тысяч жыццяў беларусаў. Ізноў пуставалі ворыўныя землі, стаялі разбураныя і бязлюдныя гарады, дзічэлі і зарасталі лесам вёскі. Вытворчыя сілы нашае краіны былі такім чынам зведзеныя на нішто.

У тым становішчы глыбокі заняпад ахапіў усе сферы жыцця. Абвастрыліся міжканфесійныя канфлікты. Да таго ж наша праваслаўная царква дыскрэдытавала сябе супрацоўніцтвам з акупантамі. З другога боку, узмацняліся працэсы апалячвання, якія ішлі праз наш каталіцкі касцёл, што падпаў да таго часу пад моцныя польскія ўплывы і быў фактычна паланізаваны.

Акрамя таго, унутраны разлад у краіне паглыбляўся ў выніку абсалютызацыі «шляхецкіх вольнасцяў», якія жывілі палітычную анархію. Замест таго каб ратаваць знясіленую дзяржаву, магнаты і шляхта зрывалі Соймы, стваралі палітычныя групоўкі ды ваявалі паміж сабою.

Усё гэта і спрычынілася да заняпаду, а пазней і страты нашае дзяржаўнасці.

**Генадзь САГАНОВІЧ.**

## Якая роля ў нашай гісторыі належыць Пятру I ?

На пачатку XVIII стагоддзя, у часы Паўночнай вайны, Беларусь зноў, у каторы ўжо раз, зрабілася тэатрам ваенных дзеянняў. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі, немец з паходжання Аўгуст II дзеля сваіх дынастычных інтарэсаў стаў у гэтай вайне, якую Расея вяла са Швецыяй, хаўруснікам Пятра I. Частка ж беларускіх магнатаў незалежніцкага кірунку на чале з Сапегамі падтрымала шведскага караля Карла XII і дапамагала яму войскам і грашыма.

Пётр I паслаў у Беларусь 70-тысячнае войска. Каб пазбавіць шведаў правіянту і фуражу, расейцы выпальвалі беларускія вёскі і рабавалі гарады. Яны паводзілі сябе на нашай зямлі не як саюснікі, а як сапраўдныя захопнікі.

У чэрвені 1705 года расейскі імператар прыехаў у Полацак. У кафедральным Сафійскім саборы ён з Меншыкавым ды іншымі прыдворнымі ўласнаручна ўчыніў нечуванае злачынства: тут былі закатаваныя і забітыя пяцёра уніяцкіх святароў і манахаў. Найстаражытнейшы беларускі храм Святой Сафіі цар зрабіў парахавым сховішчам. Напярэдадні адыходу расейцаў з горада, 1 траўня 1710 года, порах узарвалі, і сабор ператварыўся ў руіны.

Расейскія войскі вызначыліся жорсткасцю ды рабункамі і ў іншых беларускіх гарадах. Чорныя ўспаміны засталіся ад «саюзнікаў» у Магілеве. Горад, які лічыўся тады адным з найпрыгажэйшых гарадоў Еўропы, быў зрабаваны і спалены дашчэнту. На загад Пятра I казакі спалілі і Віцебск. Згарэлі замкі, ратуша, крамы, 4 касцёлы, 12 цэркваў. Менавіта Пётр I загадаў знішчыць замак у Смалянах пад Воршай, руіны якога і сёння нагадваюць нам пра тое злачынства. У Менску царская кавалерыя разам з казакамі і калмыкамі абчысціла вуніяцкі кляштар Святой Тройцы, Святадухаўскую царкву на Высокім рынку ды іншыя вуніяцкія і праваслаўныя манастыры і храмы. Менскае праваслаўнае брацтва заклікала месцічаў да зброі, і на Нямізе нашы продкі далі адпор расейскім зладзеям.

Падзеі Паўночнай вайны, гаспадаранне на нашай зямлі расейцаў, звязаныя з гэтым эпідэміі і голад сталіся сапраўдным няшчасцем для Беларусі. За тыя гады беларускі народ паменшаў амаль на трэціну — блізу на 800 тысяч чалавек.

Падчас царавання Пятра I нібыта дзеля абароны рэлігійных правоў насельніцтва пачалося актыўнае ўмяшанне Расеі ва ўнутраныя справы Вялікага Княства. З 1717 года Пётр I фактычна кантраляваў колькасны склад нашага войска. Ён дамогся па сутнасці і падпарадкавання праваслаўнай царквы Беларусі маскоўскай патрыярхіі.

Такім чынам, як сведчаць факты, роля Пятра I у беларускай гісторыі бясспрэчна адмоўная, бо ён доўгі час бязлітасна рабаваў нашыя землі і шмат у чым спрычыніўся да заняпаду беларускае дзяржаўнасці.

**Уладзімір АРЛОЎ.**

# «МІЛАГУЧНАСЦЮ СЭРЦА ЧАРУЕ»

**Пра тое, што наша мова набыла шмат нехарактэрных для яе рысаў, спрачацца, бадай, не прыходзіцца. Гэта прызнаюць усе: і тыя, хто самааддана працуе дзеля яе росквіту, і тыя, каму лёс мовы абыякавы. Выклікае спрэчкі іншае: як вярнуць нашай мове страчаныя каштоўнасці. Слоўнікавае багацце павінна папаўняцца і абнаўляцца шляхам пошукаў і вяртання архаізмаў, смялейшага ўвядзення дыялектызмаў. Значна складаней з арфаграфіяй. Дыскусія, пачатая на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», часопіса «Роднае слова», а таксама лістападаўская 1992 года рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Праблемы беларускага правапісу» толькі акрэслілі кола тых пытанняў, якія неабходна ў бліжэйшы час вырашыць, больш дакладна — давесці да лагічнага, навукова абгрунтаванага канца. Бо ў большасці выпадкаў гэтыя пытанні абмяркоўваліся ў друку на працягу апошніх сямідзесяці гадоў.**

**Сітуацыя з удасканаленнем правапісу падобная да той, якая была ў 20-я гады, калі пісалі паводле правапісу, складзенага Б. Тарашкевічам.**

**Таму, на нашу думку, веданне ўсіх аспектаў дыскусіі 20-х гадоў з'яўляецца надзвычай важным матэрыялам, аб'ектыўнай неабходнасцю. Хаця б для таго, каб не паўтарыць палікаў мінулага, а магчыма, і скарыстаць з таго вопыту.**

**Галоўная прычына, вакол якой узнікалі і ўзнікаюць праблемы,— несупадзенне маўлення і перадачы яго на пісьме*, чаго дасягнуць практычна немагчыма (і ці трэба?). Важна другое: каб пошукі адпаведных знакаў для адлюстравання слова ў маўленні не сталі самамэтай, якая паўплывае на першароднае аблічча нашай мовы — яе мілагучнасць**.**

**Мова родная, мова дзядоў,**
**Іншае мовы мы ў сэрцы ня чуем;**
**Мілагучнасцю любых нам слоў**
**Ты, як музыкай, сэрца чаруеш.**

**Так пісаў Я. Купала. (Прыкладна аднолькава, з такім жа захапленнем пра беларускую мову гаварылі яшчэ ў XIX ст. рускія лінгвісты А. Вастокаў, Ф. Буслаеў і іншыя). Крыху пазней акадэмік Я. Карскі ўпершыню пацвердзіў гэта на падставе сабраных фактаў і прыкладаў. А ў 1927 годзе У. Дубоўка ў артыкуле «Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасці нашае мовы» (Узвышша, 1927, № 4, с. 88—93) прапанаваў улічваць гэтыя асаблівасці пры правядзенні рэформы беларускага правапісу. На прапановах У. Дубоўкі мы і спынімся больш падрабязна, бо сам артыкул быў надрукаваны ўжо пасля выхаду зборніка «Працы акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі» (Мн., 1927) і фактычна не змог паўплываць на далейшыя змены. Тым больш, што ў час правядзення самой рэформы 1933 года імя аўтара значылася ў спісах «ворагаў народа».**

**Вось што адзначаў У. Дубоўка: «Найбольш мілагучныя мовы свету (італьянская і ўкраінская) маюць тую асаблівасць, што, бадай, заўсёды ў словах, сказах спатыкаецца роўная колькасць галосных і зычных (1:1). Беларуская мова з большага набліжаецца паводле чаргавання галосных і зычных да згаданых моў, але поўнай раўнавагі не дасягае».**

**Сучасныя даследаванні паказалі, што адсутнасць такой раўнавагі кампенсуецца іншымі фанетычнымі і марфалагічнымі з'явамі, якія, уласна кажучы, і складаюць спецыфіку беларускай літаратурнай мовы. Для прыкладу назавём толькі некаторыя з іх:**

**1) наяўнасць падоўжаных зычных;**
**2) дзеканне, цеканне;**
**3) наяўнасць прыстаўных галосных і зычных;**
**4) поўнагалоссе і іншыя.**

**З'явіліся яны ў нашай мове невыпадкова, лічыць У. Дубоўка, а «з мэтай ухілення нямілагучных гуказлучэнняў». Таму менавіта гэта тэарэтычнае дапушчэнне паслужыла штуршком для сфармулявання паэтам наступных арфаграфічных правіл.**

**1. Напісанне *у* на пачатку слова.**

**«Калі пасля *у* на пачатку слова ідуць два ці больш зычныя гукі, павінна пакідацца на пісьме *у* складовае (*адна установа*); калі пасля *у* на пачатку слова ідзе адзін зычны — павінна ўжывацца *у* нескладовае (*павінна ўжывацца*).**

**Нам здаецца, што гэтае ўдакладненне можна было б улічыць. Праўда, распаўсюдзіць яго не так на пачатковае *у*, як на *у*, якое знаходзіцца ў сярэдзіне слова. Гэта спрыяла б захаванню мілагучнасці і, што самае істотнае, дапамагло б пазбегчы супярэчнасцяў у напісанні слоў іншамоўнага паходжання. Не прыйшлося б тады нам выясняць, утварае ў такіх словах *у* склад ці не.**

**2. Ужыванне канчаткаў прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку ў родным склоне, а таксама назоўнікаў і прыметнікаў у творным склоне.**

**Для параўнання. У расійскай мове асноўнымі канчаткамі ў гэтых формах прынята лічыць канчаткі *-ой, -ей*. Варыянтныя формы з канчаткамі *-ою, -ею* выкарыстоўваюцца часцей у паэзіі і фальклоры. Для беларускай жа мовы, як адзначаў яшчэ Я. Лёсік, у большасці выпадкаў характэрныя канчаткі *-ае, -ое, -яе, -ёю, -ою, -аю, -яю*, хаця паводле літаратурнай нормы нашы граматыкі падаюць і канчаткі *-ай, -ой, -яй*.**

**Меркаванне У. Дубоўкі адназначнае: абедзве формы павінны ўжывацца, толькі ў розных выпадках. «Тады, калі чарговае слова пачынаецца зычным гукам, трэба даваць поўныя канчаткі. Калі слова пачынаецца галосным — трэба даваць кароткія (*моцнаю рукой ахапіў стан*)».**

**Такая дэталёвасць у правіле, думаецца, не ўскладніць наш правапіс (тым больш, што на практыцы яно часцей за ўсё выконваецца), а наадварот, паслужыць на карысць.**

**3. Прыстаўныя галосныя і зычныя***.**

**З гісторыі мовы вядома, што з'яўленне прыстаўных галосных звязана з стратай рэдукаваных, а развіццё прыстаўных зычных — не звязана. (У расійскай мове такіх катэгорый гукаў увогуле не назіраецца, за выключэннем слова *восемь*.) Таму, лічыць У. Дубоўка, узнікненне іх у беларускай мове звязана з мэтай пазбегчы непажаданых збегаў галосных або зычных. І прапановы яго зводзяцца да наступнага: «Калі пачатковае націскное *о* з прыдыханнем *в* траціць свой націск, дык прыдыханне ўжываецца толькі ў тых выпадках, калі папярэдняе слова мае адкрыты канчатак. Напрыклад: *вялікія вазёры, на вялікіх азёрах*».**

**Уводзіць сёння гэты пункт як асобнае правіла, відаць, няма патрэбы. Аднак пры выкарыстанні слоў з прыстаўнымі зычнымі ў словазлучэннях і сказах, напэўна, можна прыняць дадзены тэзіс з паметкай «заўвага».**

**Безумоўна, усе гэтыя прапановы патрабуюць дэталёвага аналізу. Але сёння ясна адно: прасякнуты яны адзінай мэтай — «дзеля ўстанаўлення найшчыльнейшай сувязі паміж гаворкай «адукаваных асоб» і «простага люду», якая складалася тысячагоддзямі, увабрала ў сябе самыя істотныя, найбольш важныя з'явы. Таму пакідаць іх без увагі, а тым больш мэтанакіравана пазбаўляць ад іх, будзе ці не вялікім марнатраўствам.**

**І на заканчэнне хацелася б прывесці словы І.-Р. Бехера: «Рытміка, метрыка і мелодыя існуюць у прыродзе і ў працы чалавека і знаходзяць адпаведнае выражэнне ў мове».**

*Гл., напр., артыкул А. Падлужнага «Работа над памылкамі 1933 года» //Беларуская мова і літаратура ў школе. № 3—4. 1991.

**Тэрмін мілагучнасць быў прыдуманы і ўведзены ў нашу мову У. Дубоўкам у 20-я гады.

***Прапановы па ўнармаванню напісання прыстаўных галосных і зычных найбольш пераканаўча, на наш погляд, разглядаюцца ў артыкуле Б. Пятровіча «Не рэформа, а ўдасканаленне» //Беларуская мова і літаратура ў школе. № 7—8. 1991.

Уладзімір КУЛІКОВІЧ.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Свята «Жывога слова»

26 лістапада 1963 года ўпершыню прагучала радыёперадача «Жывое слова». За трыццацігоддзе падрыхтавана 328 гэтых перадач, якія далучаюць ужо не першае пакаленне нашых грамадзян да скарбаў і багаццяў матчынай мовы. Нязменны вядучы «Жывога слова» пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, голас якога па-ранейшаму збірае зацікаўленых слухачоў ва ўсіх кутках Беларусі ў апошнюю пятніцу кожнага месяца, калі перадача транслюецца ў эфір.

Напярэдадні трыццатай гадавіны «Жывога слова» ў гасцёўні сярэдняй школы № 108 беларускай сталіцы сабраліся сябры аднайменнага клуба, былыя і сённяшнія ўдзельнікі гэтых папулярных радыёперадач, каб разам са школьнікамі ўрачыста адсвяткаваць юбілей. Такім чынам, у згаданай школе адкрылася своеасаблівае выязное пасяджэнне клуба «Жывое слова».

Адкрываючы свята, У. Юрэвіч сказаў, што думка аб стварэнні менавіта такой перадачы ўзнікла ў яго ў самым пачатку 60-х гадоў, калі рэальна вызначылася пагроза заняпаду роднага слова. «Мне хочацца,— працягваў пісьменнік,— каб гэта перадача працягвала жыць. Апошнім часам, дарэчы, у нас наладзіўся творчы кантакт не толькі з дзецьмі, але і з іх бацькамі, бо тыя, хто пачынаў слухаць нас два-тры дзесяцігоддзі назад, зараз самі сталі бацькамі». Далей вядучы «Жывога слова» паведаміў, што цяпер у перадачах надаецца менш увагі тлумачэнню назваў беларускіх гарадоў, мястэчак і вёсак: гэта работа ўжо зроблена. Таму ў лістах слухачоў, якія сёння прыходзяць у рэдакцыю, пытанні аб этымалогіі найбольш пашыраных слоў роднай мовы.



Рэдактар «Жывога слова» Галіна Шаблінская падкрэсліла, што гэта перадача — адзіная на беларускім радыё, якая пасля стольких гадоў паспяховага эфірнага жыцця па-ранейшаму карыстаецца нязменнай і ўстойлівай папулярнасцю. У прыватнасці, сказала яна, пошта радыёперадачы пераконвае, што «Жывое слова» і зараз вельмі патрэбна і неабходна.

Да мікрафона падыходзіць паэт Генадзь Пашкоў — адзін з першых рэдактараў радыёперадачы. Ён чытаў свае вершы, прысвечаныя роднай мове, а на заканчэнне адзначыў, што гэтую перадачу рэгулярна слухаюць сотні тысяч жыхароў Беларусі. Затым слова бралі маладыя паэты, чый творчы шлях пачаўся з «Жывога слова»: Вольга Савасцюк, Уладзімір Мазго, Алесь Бадак і Леанід Пранчак. На развітанне школьнікі праспявалі беларускія народныя песні, гасцей жа чакаў святочны стол.

Наш карэспандэнт.

НА ЗДЫМКУ: выязное пасяджэнне «Жывога слова». У цэнтры — нязменны вядучы перадачы У. ЮРЭВІЧ.

Фота У. ПАНАДЫ.

*Конкурсы*

## Усе ў госці да нас!..

Неяк сустрэла сваю даўнюю знаёмую: «Дачакаліся, — кажа яна,— ужо і наша Смаргонь у людзі выходзіць». І гэта сапраўды так. Усё часцей і часцей пра наш невялічкі гарадок можна пачуць, прачытаць, паглядзець... Што і казаць, Смаргоншчына — край з багатым мінулым. А суседства з Паўночнымі Афінамі — маёнткам славутага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага — паспрыяла таму, што вось ужо трэці год у горадзе будзе праходзіць III Міжнародны музычны конкурс-фестываль яго імя. Сёлета гэта значная падзея ў культурным жыцці Смаргоні адбудзецца з 3 па 5 снежня. На гэты конкурс прыедуць юныя музыканты са школ і вучылішчаў Беларусі, госці з Летувы і Польшчы, а таксама з Францыі і Італіі. Адным словам, з тых краін, з якімі было цесна звязана жыццё М. К. Агінскага. І загучыць цудоўная музыка... І будзе свята!..

А пакуль аргкамітэт конкурсу-фестывалю заняты будзённымі справамі падрыхтоўкі. І пытанне, дзе ўзяць значныя грашовыя сродкі, стаіць, бадай, на першым месцы. Калі ж нехта з чытачоў вырашыць далучыцца і аказаць пасільную фінансавую дапамогу,— калі ласка, паведамляю: 231000, Гродзенская вобласць, г. Смаргонь, разліковы рахунак 142430 у смаргонскім аддзяленні Белаграпрамбанка. Тэлефоны ў Смаргоні: (код 8—015-92) 2-25-91, 2-29-21, 5-13-95.

Жанна РАДЗІШЭЎСКАЯ.

г. Смаргонь.

*Імпрэзы*

## Кветкі беларускай зямлі




*Свята... Гэта заўжды добры настрой, усмешкі, сюрпрызы. А як кожнага свята чакаюць дзеці!*

*Нядаўна ў сярэдняй школе № 4 г. Чэрвеня адбыўся ўрачысты прыём вучняў другіх-трэціх класаў у дзіцячую арганізацыю «Верасочкі». Святочна прыбраная зала. На сцэне — сонейка сярод кветак і гурт усхваляваных дзяцей, вочы кожнага з іх зіхацяць радасцю. Кіраўнік «Верасочкаў» Таццяна Сямёнаўна Мажутка звярнулася да дзяцей:*

*— Увосень, недзе ў сярэдзіне верасня, на сонечных паляпах бароў ці па ўскраінах балот сціпла цвіце наш беларускі верасок. Здаецца, ён кволы. На самай жа справе гэта расліна вельмі моцная, не баіцца нават самых лютых маразоў. І калі ўзімку разгарнуць снег, то можна ўбачыць, што верасок не загінуў. Яго бэзавы вачаняткі гараць такім жа агеньчыкам, як і ў пару залатой восені. Вось і мы спадзяёмся, дзеткі, што вашы сэрцы і душы заўжды будуць такімі ж незгасальнымі.*

*Затым дзяцей запрасілі на сцэну. Кожны атрымаў пытанне па гісторыі Беларусі. Малыя з гонарам вытрымліваюць гэты экзамен. Некаторыя даюць падрабязныя і грунтоўныя адказы. Далей на сцэне з'яўляецца хлопец і дзве дзяўчынкі. Гэта Вася Вясёлкін, настаўнік Лясной школы, а з ім памочніцы — Бульбінка і Цыбулінка. Дзеці бачылі іх на старонках сваіх падручнікаў. А тут яны — жывыя, сапраўдныя! Госці ўручылі дзецям памятныя медалі і значкі з надпісам «Ігумен» — менавіта так даўней называўся Чэрвень.*

*Я бачыла вясёлыя, радасныя твары верасочкаў, слухала іх шчабятанне і думала: «Дай Бог, каб выраслі сумленнымі, сціплымі, чулымі, гатовымі прыйсці на дапамогу тым, каму дрэнна. Каб іх сэрцы і душы адчыняліся толькі насустрач дабру і спагадзе. Каб іх сэрцы не ведалі жорсткасці і бесчалавечнасці».*

*Квітнейце, верасочкі! Няхай жыве і квітнее родная Беларусь, няхай поўніцца такімі кветачкамі!*

Святлана АДАМОВІЧ, настаўніца пачатковых класаў СШ № 4 г. Чэрвеня, кіраўнік школьнай сябрыны скарынічаў.

## Прэм'ера «Каруселі»

У Палацы культуры МТЗ нядаўна адбылася прэм'ера сатырычнага спектакля «А вы, чулі?» у пастаноўцы заводскага народнага тэатра эстрадных мініяцюр «Карусель». Сюжэтную канву спектакля склалі творы Анатоля Майсеева, Юрыя Коўшара і Міколы Вяршыніна.

Новая работа ідзе на дзяржаўнай мове нашай краіны. Да слова, гэты калектыў хутка адзначыць сваё дваццацігоддзе, занята тут у асноўным моладзь.

Рэжысёр-пастаноўшчык новага спектакля — мастацкі кіраўнік «Каруселі» Анатоль Каракоўскі. Цудоўнае валоданне родным словам на сцэне прадэманстравалі самадзейныя артысты Клаўдзія Чарняўская, Ліліана Доліч, Валянціна Пагажэльская і іншыя.

На працягу ўсяго спектакля ў зале не сціхаў смех гледачоў. Гумар і сатыра на роднай мове гучалі цудоўна.

Пятро ГАРДЗІЕНКА.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

*Ад роднае зямлі*



# Песня над Дукорай

Ой, у полі вецер,
Вецер павявае.
Да маёй крыніцы
Вада прыбывае...

Здаецца, няма канца гэтай цудоўнай песні. Рвецца яна ў вышыню, кліча за сабой, нараджае глыбокія і светлыя пачуцці. Песні фальклорнага ансамбля «Світанак» Дукорскага СДК, што ў Пухавіцкім раёне,— пра жаночую долю, мацярынскую любоў, пра сваю вёску, якой засталіся верныя на ўсё жыццё.

Кожная вёска мае адметныя рысы, свой твар. Дукора — вёска спявачак. Можна часта пачуць, як дукорскія жанчыны нядзельным днём, сабраўшыся ў сваім Доме культуры на вячоркі, спяваюць. На іх голас збіраюцца землякі. І слухаюць, слухаюць...

Мастацкі кіраўнік калектыву Любоў Валяр'янаўна Губашына разважае.

— Кажуць, песня — невычэрпная крыніца. Але гэта далёка не так. Іншы раз фальклорныя творы з цягам часу губляюцца, забываюцца. Каб гэта не здарылася, трэба берагчы песню, як тую крынічку. Тады яна нас яшчэ парадуе і ў спякотны летні дзень, і ў зімовыя прыцемкі. Як гаючая вада, разгоніць смутак, загоіць раны.

Кіруе ансамблем Любоў Валяр'янаўна ўсяго некалькі год. Назву «Світанак» прыдумалі самі жанчыны, якіх у калектыве больш за дваццаць.

Як ранішні світанак пачынаецца з першых нясмелых праменняў сонца, так і ансамбль узнік з першых спроб адрадзіць народную песню. Напачатку іх было некалькі жанчын сталага ўзросту: Соф'я Васільеўна Мазоўка, Надзея Паўлаўна Бабовік, Соф'я Аляксееўна Чуліцкая, Ганна Іосіфаўна Губашына, Соф'я Пятроўна Куніцкая, Таццяна Паўлаўна Мазоўка.

...Выступалі яны ўпершыню з праграмай вясковых вячорак, хваляваліся: ці зразумеюць, ці пачуюць людзі песні даўніх часоў? Спачатку зала маўчала, а потым узарвалася воклічамі і апладысментамі. Яшчэ б: працавалі ж так натхнёна, адшуквалі нешта сваё, непаўторнае.

Паступова калектыў папаўняўся моладдзю. Прыйшлі Ірына Куніцкая, Алена Губашына, Вольга Гучок, Вольга Сярова, акампаніятар Ніна Гаўрылюк.

Праз усё жыццё пранесла песню ветэран ансамбля Галіна Герасімаўна Зміцрук. Яна весяліць людзей на вясковых вечарынах, ніводнае вяселле ці радзіны не абыходзяцца без яе. Беларуская народная песня «Мамачка мая» ў яе выкананні зачароўвае слухачоў шчырасцю і свежасцю.

Неабходнай стала песня ў жыцці Кацярыны Сяргееўны Сакольчык, Зінаіды Паўлаўны Бондарчык, Валянціны Фёдараўны Страх, Арыны Іванаўны Жыльчык. А пра Зінаіду Драздовіч у Дукоры кажуць: самародак.

Льюцца чароўныя гукі, і ўяўляеш пошум лесу за ракой, звон вясковых зарумчынаў, купальскай ночы. Для старэйшай удзельніцы ансамбля Любові Афанасьеўны Лявіцкай, ветэрана працы, для мужа і жонкі Чурылаў спяваць — гэта не толькі адпачываць душой. Гэта яшчэ працаваць адказна і плённа.

Неспакойныя і неўтаймаваныя гэтыя людзі. Энтузіязм і бязмежная любоў да народнай песні прынеслі калектыву заслужаны поспех і славу. Мінулым летам, калі «Світанак» па запрашэнні Санкт-Пецярбургскага гарадскога цэнтра культуры сумесна з Расійскім музеем этнаграфіі і фальклору выступаў у маляўнічых мясцінах Паўлаўска і Пушкіна, на плошчы Мастацтваў, то пасля кожнага выступлення гледачы шчыра дзякавалі, жадалі беларускаму калектыву творчых поспехаў, а сабе — новых сустрэч з ім.

Ганарыцца калектывам дырэктар Дукорскага СДК Сяргей Паўлавіч Красноў. Ва ўсім дапамагае яму.

**Генадзь ЯФРЭМАЎ.**

Пухавіцкі раён.

На здымку: ансамбль «Світанак».
Фота У. КАВАЛЬЧУКА.

## Каляндарны план работы
## Дома літаратараў на снежань 1993 года

| | | |
|---|---|---|
| 10 снежня | Сустрэча з тэатрам мініяцюр і тэатрам гумару «Плюс-мінус» | |
| | Прэзентацыя кнігі Міколы Вяршыніна «Свой чалавек» | Пачатак у 18.30 Вялікая зала |
| 14 снежня | Прэм'ера кінафільма «Магілёў» Аўтар сцэнарыя — Юрась Чудзін Рэжысёр — Уладзімір Колас | Пачатак у 18.30 Вялікая зала |
| 15 снежня | Секцыя перакладу | Пачатак у 15.00 Канферэнц-зала |
| 16 снежня | «Хачу жывую думу думаць...» Да 75-х угодкаў з дня нараджэння Кастуся Кірэенкі | Пачатак у 18.30 Кавярня |
| 21 снежня | Вечарына дакументальных музычна-этнаграфічных фільмаў «Палескія каляды», 1972 г. Аўтар сцэнарыя — Зінаіда Мажэйка Рэжысёр — Ніна Сава «Крывыя вечары», 1993г. Аўтар Сцэнарыя — Зінаіда Мажэйка Рэжысёр — Юры Лысятаў | Пачатак у 18.30 Вялікая зала |
| 23 снежня | Прэм'ера першай кнігі вершаў Анатоля Кудласевіча «Плакун-трава» | Пачатак у 18.30 Вялікая зала |
| 28 снежня | Калядная канцэртная праграма Згуртавання беларускае шляхты | Пачатак у 18.30 Вялікая зала |

*Іранічныя радкі*

*Вінцук АСЬЦЮК*

# Кажуць...

*(Працяг).*

Думаў, з месяц памаўчу,
Ды нядаўна я пачуў,
А пачуў, паверце, сам,
Людзі кажуць тут і там,
Што ў паэта Асьцюка
У Сауміне ёсць рука,
І таму ўсё ён рыфмуе,
Што на вуліцы пачуе,
Сам жа ён такі басяк,
Што палохаць ім сабак.
Я — Асьцюк! Я вам скажу,
А дакладней, напішу,
Пэўна, гэтая мана
Нарадзілася з віна,
Бо такі ў нас час прыйшоў —
Шмат усюды асцюкоў,
Толькі я такі адзін,
Як адзін такі Саўмін.
Ну а людзі шмат што кажуць,
Нібы венікі ўсё вяжуць.
Кажуць, што з бальшавікамі,
Што з чырвонымі сцягамі
Ходзяць, злосныя, крычаць,
Каб Саюз тут аднаўляць,
Дружна, як раней, жывём,
Як авечкі — ўслед ідзём.
Кажуць, бульбу нам і жыта
Трэба закупляць нібыта,
Бо яны ў нас не растуць,—
Іх з Сібіры нам вязуць,
Каб усіх нас накарміць.
Без Сібіры нам не жыць!
Кажуць, ёсць жа дэпутат,
Што ўсяму на свеце рад,
І цяпер ён дзень пры дні
У парламенце сядзіць
І з усмешкаю глядзіць,
Як і хто там выступае.
Сам жа кнопкі націскае,
Як і большасць дэпутатаў,
Што век спалі на пасадах,
Хоць цяпер ужо й не спяць,
Праўда, сонныя, маўчаць.
Кажуць, нашае сяло,
Што, як крапіва, цвіло,
Сыдзе хутка ў небыццё,
Як апалае лісцё,
Бо ў ім фермер жа завёўся.
І адкуль жа ён узяўся!
Кажуць, што накорміць нас
Лукашэнка і калгас.
Без калгаса наш народ
Знаць не будзе, дзе асот,
А дзе жыта ў нас шуміць.
Без калгаса станем піць
І прап'ём зямлю і хату,
Як раней сваю зарплату.
Кажуць, што вы ў менскай школе
Не пачуеце ўжо болей
Мовы рускага народа.
Роднай моваю валодаць
Сталі ўсе, бо ёсць Закон
І выконваецца ён,
Нават дворнік Іваноў
Стаў вітаць усіх: «Здароў».
Кажуць нам, што ўсё ўжо можна,
Праўда, толькі асцярожна,
Бо і сцены вушы маюць
І пра ўсё, дзе трэба, знаюць.
Ну а ты са мной, чытач,
Толькі смейся, а не плач,
Бо я знаю: знаеш ты,
Хто ў нас грэшны, хто святы,
І хто што між нас тут кажа,
Нібы венікі ўсё вяжа.

Лістапад, 1993 г.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**8 СНЕЖНЯ, СЕРАДА**

13.30. Навіны.
15.30. Тэлебом. Гала-канцэрт пераможцаў шоу-конкурсу ў Мазыры. Частка трэцяя.
17.30. Студыя «Тэлесябрына». «Нямеччына вачамі беларуса». Частка пятая.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
19.45. Навошта дадзена ўлада?
21.00. Панарама.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**9 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР**

13.30. Навіны.
16.55. Тэлебачанне — школе. Літаратура. X клас. Па старонках трылогіі Якуба Коласа «На ростанях».
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
20.10. Пазіцыя ўрада.
21.00. Панарама.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**10 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА**

13.05. Пазіцыя ўрада.
13.30. Навіны.
17.00. «ПІК» прадстаўляе: «Папараць-кветка». Шоу-віктарына.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
21.45. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**11 СНЕЖНЯ, СУБОТА**

10.00. Паказвае Віцебск.
14.45. Песню бярыце з сабою. Тэлефестываль беларускай песні. Частка першая.
15.40. Роднае слова. Тэлечасопіс.
18.20. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
23.10. НІКа.

**12 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

13.20. Край. Коннік на гербе. Хто ён?
14.30. Песню бярыце з сабою. Тэлефестываль беларускай песні. Частка другая.
18.00. Радавод. «Вечар ля пасвета».
19.55. Панарама.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 300.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 7268 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 6.12.1993 г. у 15 гадзін.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014